# ЗБОРНІК ПЕСЬНЯЎ БЕЛАРУСКАГА ЖАЎНЕРА




ВЫДАНЬНЕ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У ЗША-1975 г.

ТРЫМАЮЦЬ СЬЦЯГ АСОБЫ,ЧЫТАЮЧЫ АД ЛЕВА:

I. Капітан Іван Наумчык,удзельнік Слуцкага Паўстаньня ў I920 г.

2. Інж.Эмануіл Ясюк,удзельнік Аўтакефальнага Сабору Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Менску ў I942 г.

3. Дацэнт Яўхім Кіпель,Прэзыдэнт Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску ў I944 г.,а таксама ён-жа зьяўляецца хросным бацькам сьцягу.



# The Songbook of the Byelorussian Soldier

Compiled by
Byelorussian-American
Veterans, 1975

**Праф. Dr. h. c. Радаслаў Астроўскі**

**Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады.**



Р. Астроўскі

## <u>А Б Е Ж Н І К № 3- 1974 г.</u>

да ўсіх БЕЛАРУСАЎ на чужыне.

Гэтым падаецца да ведама, што УСЕ БЕЛАРУСЫ, якія апынуліся на чужыне і ня могуць вярнуцца на Бацькаўшчыну, НЕ ТРАЦЯЦЬ свае БЕЛАРУСКАЕ дзяржаўнае ПРЫНАЛЕЖНАСЬЦІ, хоць прыймаюць ГРАМАДЗЯНСТВА Краіны, у якой яны жывуць і падлягаюць усім законам гэтае Краіны.




Р. Астроўскі
Прэзыдэнт



"Уздымем яго высока -
абло ён пакрые нас!"
/З прысягі беларускіх партызанаў/



Кіраўнік Саюзу Беларускай Моладзі Міхась Ганько прамаўляе на стадыёне "Дынама"у Менску-1944 г. перад ад"ездам і прыдзелам да батальёнаў БКА.



Беларуская Краёвая Абарона

Беларускі Рэсорт Бэлер-Менск у Глэн Спэй, Нью Ёрк. 4 ліпеня кожнага году тут адбываецца сьвята "Дзень Беларускага Жаўнера" і сюды зьяжджаюцца Беларуска-Амэрыканякія Вэтэраны. Тут-жа служыцца Служба Божая айцамі - пратап.М.Лапіцкім і а.С.Каўшом.

Вось і ў гэтым 1968 г. адбылася малітва за супакой душаў, дзе палкоўнік А.Мінчук прапанаваў ушанаваць хвілінай маўчаньня за загінуўшых за час 50-дзя савецкага панаваньня: сасланыя ў халодны Сібір, дзе загінулі бяз сьледу, утопленыя, расстраляныя, павешаныя, спаленыя, замучаныя, удушаныя, а памяць аб якіх няхай будзе вечна з намі.



Хор Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Саўт Рывэр, Нью Дж.
пад кіраўніцтвам капітана Ю.Рымка.

4 красавіка 1970 г.у Вашынгтоне адбылася антыкамуністычная маніфэстацыя,у якой удзельнічылі каля 50.000 асобаў.У маніфэстацыі ўдзельнічылі амэрыканскія сябры Антыбальшавіцкага Блёку Народаў,у складзе якіх былі прадстаўнікі беларускіх вэтэранаў:

1.палкоўнік А.Плескачэўскі;
2.палкоўнік Н.Мядзейка;
3.старшы лейт.Б.Плескачэўскі;
4.лейт.Васіль Юрцэвіч;
5.старшыня М.Сенька.

Першы раз у гісторыі беларускія сьцягі разьвіваліся па вуліцах амэрыканскае сталіцы ў Вашынгтоне.



30-я ўгодкі Беларускай Краёвай Абароны

...

Загадам Прэзыдэнта БЦР Праф.Р.Астроўскага дня 10 сакавіка 1944 г.адбылася мабілізацыя,якая паказала нам нацыянальную дасьпеласьць нашага народу і высокае яго пачуцьцё да спаўненьня сваіх абавязкаў перад Бацькаўшчынай.Такім чынам паўсталі шматлікія батальёны Беларускай Краёвай Абароны-БКА,якія пакрылі сабою ўсю тэрыторыю наступных акругаў:Менскае,Барысаўскае,Слуцкае,Баранавіцкае, Слонімскае,Наваградзкае,Вялейскае і Глыбоцкае. Аднак трэба з сумам сказаць,што з прычыны пераважаючай сілы чырвонай арміі,БКА была змушана выйсьці за межы Беларусі і ў вольным сьвеце весьці барацьбу за сваю Незалежнасьць.Беларускія жаўнеры пайшлі на чужыну шукаць лепшае долі і абвяшчаць усяму сьвету тую крыўду,гора,што насілі да тэтага часу на акрываўленых нагах,на нагах,абутых у лапці.Беларускі народ знаходзіцца ў няволі,але заўсёды верны хрысьціянскай культуры,сваёй традыцыі,звычаем і дэмакрацыі,вядзе барацьбу за сапраўдную вольнасьць і Незалежнасьць нашай Маці-Беларусі.Варожыя сілы ў краю і за мяжою фальшуюць нашую мову і гістарычную праўду беларускага народу,каб падкапаць яго веру,заламаць на духу і навуку аддаць у службу чужынцам ...

Аднак беларуская незалежніцкая думка ў вызвольнай нашай барацьбе разьвіваецца ў належным напрамку, а сьцяг І-га і 2-га Усебеларускіх Кангрэсаў у пэўных руках. У пачатку ліпеня 1944 г. вы і я пераступалі этнічныя межы Беларусі да Летувы, Заходняй Прусыі, Польшчы ды Нямеччыны. І не адзін з нас падумаў : бывай, дарагая сталіца Менск ! Бывай, радзімая старонка Маці-Беларусь! Бывайце вы, родныя гоні-палі і пушчы, азёры і рэчкі, і вы, бярозы-беларускія сьлёзы ! Мы вас пакідаем таму , каб вярнуцца і прывітаць вас, як вольныя вольных ! Дух сьмерці :глухія стогны кананьня ды сьвежыя магілы сваіх блізкіх і родных, праводзілі нас на выгнаньне. Адначасна з гэтым нас праводзіла надзея на прыйсьцё лепшай будучыні. Мы верылі і верым у нязломнасьць духу беларускага народу. Змагарныя шляхі Беларускага жаўнера засталіся ў памяці Беларусаў на эміграцыі. Яны носяць у душы вобразы Беларускіх жаўнераў, што палеглі на палёх змаганьня са сьцягам Пагоні ў руках за запаветы Кастуся Каліноўскага /1838-1864 гг./. Беларускія жаўнеры пайшлі на чужыну шукаць лепшае долі і абвяшчаць усяму вольнаму сьвету пра крыўду, гора, што прынесла Масква беларускаму народу.

Руіны гарадоў,пажары родных вёсак і мястэчак нашае Маці-Беларусі,выгнаньні і небясьпекі гартавалі душы маладых жаўнераў і гартавалі іх волю ды імкненьні,як сталь,якая бярэ сілу ў гарачым полымі і ў халоднай вадзе.Жаўнеры БКА і паліцыя-канцэнтрацыя сілы,але думка іх пранікала ў бязьмерну даль,стараліся ўбачыць невядомую будучыню,якая іх чакала.Нязломная сіла,якая адчувалася ў кожным з іх рухаў,сьведчыла аб нашай сіле ды бадзёрасьці беларускага народу. Вось у тым ліку была і паліцыя,якая мела чорную вопратку,але мела народную душу,яна стаяла ў абароне беларускага народу,змагалася за сваю лепшую долю і Незалежнасьць.У гісторыі Беларусі і нашых традыцыях жаўнер ёсьць сымбалем сваёй Бацькаўшчыны,каторай прызначэньнем ад тысячагодзьдзяў было і ёсьць бараніць свае зямлі перад ворагам.Беларускія жаўнеры Другой сусьветнай вайны /1939-1945 гг./ ішлі са сьцягам ідэалаў Беларусі ад роднай сталіцы Менску і разышліся па цэлым вольным сьвеце.Іх песьні- іх кліч найшчырэйшай вольнасьці і справядлівасьці беларускага народу.Мужнасьць Беларускага жаўнера ў часе Другой сусьветнай вайны ёсьць як-бы атэстатам нашага народу,які выпісаны крыўлёю Беларускага жаўнера: духовага ўзросту патрыятызму і каханьне Беларусі.

Жаўнеры сталіся ня толькі сымбалем Беларусі,але і сымбалем барацьбы за вольнасьць і Незалежнасьць Маці-Беларусі,бо гэта яны рэпрэзэнтавалі найшчырэйшыя патугі нашага народу.Яны загінулі,каб жыла Маці-Беларусь. Для славы Случчакоў і жаўнераў Другой сусьветнай вайны сьпяваюць лістападовыя вятры,скідаючы на іх забытыя магілы пажоўклае лісьцё замест ляўровых вянкоў.Супроць бальшавіцкай заразы найлепшым лякарствам зьяўляецца антыкамунізм,які праяўляюць беларускія эміграцыйныя дзейнікі ў кожнай краіне вольнага сьвету. Эміграцыйны штодзённы хлеб не заспакоіў жаданьняў тых,каторыя каханьне Беларусі і вольнасьць выссалі з грудзей матак-Беларусак.Палітыкі,паэты, навукоўцы,літаратары,пісьменьнікі,дзеячы з Маці-Беларусі,людзі з вялікім дасьведчаньнем у грамадзкіх працах стараюцца ўсімі спосабамі пашырыць беларускую народную культуру сярод чужых народаў.Акрамя таго і Беларускі жаўнер скінуў сваю вайсковую ўніформу,але ён свайго сэрца не зьмяніў і прахоўвае ў ім сьвятасьць каханьня Маці-Беларусі.Адначасна з вялікім энтузыязмам шануе і прахоўвае вайсковыя традыцыі Кастуся Каліноўскага,а таксама генэрал-маёра БКА Кастуся Езавітава /1894-1947 гг./ .

Нязломная вера ў будучыню ў Беларускіх жаўнераў, якія гуртуюцца на эміграцыі ў Саюзах Беларускіх Вэтэранаў. У ЗША на чале быў палкоўнік А.Буглай, які адыйшоў з прычыны хваробы і гадоў,а цяпер на чале ёсьць палкоўнік А.Мінчук.Палкоўнік А.Буглай, маёр К.Мярляк і капітан Д.Клінцэвіч зьяўляліся закладчыкамі Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у ЗША.Беларуская мова-душа народу,дык песьня-вопратка душы.Быліны-эпічныя песьні гераічнага характару,якія ўвасобілі сілу і гераізм Старажытнай Белай Русі,дзе разьвіваліся з IX-X стг. ды бытавалі па ўсёй тэрыторыі :ад ракі Угры і па раку сіні Буг ды раку Сан,а гэта ёсьць у сучаснай Беларусі і на Украіне.Гэта агульны здабытак продкаў Белай Русі,якія захавалі свой агульна-народны характар,бо ў сучаснай Расеі не тварыўся народны фальклёр,ён застаў выпазычаны ад Беларусаў і Украінцаў,бо яны /Расейцы зьяўляюцца з натуры Манголамі,а ў Манголаў тае каштоўнасьці няма. Беларуская вуснапаэтычная творчасьць дасягнула высокага ўзроўня,яна вызначаецца багацьцем жанраў,формаў і прыёмаў.Гэтая творчасьць народных пластоў у свой час адыграла вялікую грамадзкую ролю.

Песьні,казкі,прыказкі ды іншыя фальклёрныя творы былі дзейным сродкам у змаганьні беларускага народу супроць царскай Расеі,а пазьней Савецкай Расеі і Польшчы,яны садзейнічалі разьвіцьцё вызвольнага руху,дапамаглі барацьбе за сваю Незалежнасьць.Вуснапаэтычная творчасьць кожнага народу, а ў тым ліку і беларускага ўзьнікла з працоўных пластоў сялянаў,дык імкненьні гэтыя радзіліся,каб зрабіць шчасьлівым жыцьцё. Рэалістычныя тэндэнцыі ў вуснапаэтычнай творчасьці беларускага народу праяўляюцца ў самых старадаўніх відах і жанрах.Гэтыя тэндэнцыі няспынна разьвіваліся,усё больш узмацняліся і паступова знаходзілі нацыянальны напрамак беларускага вызваленьня. Аднак,ня гледзячы на ўсе зьнішчэньні нашых гістарычных помнікаў расейскім царызмам,польскімі панамі,а пачынаючы ад 1920 г.расейскімі камуністамі,спадчынасьць адбілася на творчасьці Беларусаў,на іх жыцьці і культуры.Фальклёр беларускага народу,галоўнай часткай якога зьяўляюцца цыклі беларускай народнай песьні /сэзонна-абрадавыя,гістарычна-эпічныя,працоўныя і бытавыя / з выключнай сілай мудрасьці і глыбіні,адлюстроўвае мастацкасьць,імкненьні,спадзяваньні .

Мужнасьць,думкі,пачуцьці,шматвяковыя гераічныя змаганьні за сваю Незалежнасьць,вераваньні,абрады і звычаі,працу і быт грамадзтва,яго сямейнае жыцьцё.Народная мудрасьць шчодра раскідала шматгранныя сюжэты,тэматыку,формы і жанры песяннасьці :гаротныя вясьнянкі,валачобныя забаўлянкі,вітальныя Калядкі,рамантычныя купалінкі, пяшчотныя калыханкі,задумліва-вясельныя,каторыя азначаюць шчодрую і ласкавую лірыку,вострую сатыру і добрадушны гумар ды агнявую,віхурную весялаcьць.У гэтай магутнасьці выяўлялася рознастайнасьць ягоных пачуцьцяў,якія гарэлі блескам у самыя трагічныя перыяды беларускай гісторыі. Быт грамадзтва,жывая гаворка,розныя інтанацыі заклінаньняў,эпічныя апавяданьні,мэты,на якіх расьлі пабудовы песяннасьці беларускага народу, кліч песяннасьці ў архаічных ладах тае пары. Такім чынам,беларуская народная песьня не згубіла сваіх рысаў,бо Беларусы належаць да тых рэдкіх народаў,якія старанна перахоўваюць вернасьць старыне.Зярно лірызму і рамантызму пераплятаецца ў беларускіх народных песьнях з сумам і тугою за Вольнасьць і Незалежнасьць свае краіны.

Беларуская песьня ня дасьць забыцца Беларусу аб шчасьці і нячшчасьці аж да сьмерці,прыпамінае аб героях і брацкіх магілах: " Сьпі пад курганам герояў","Ішлі жаўнеры Беларусы ",а патрыятычны нацыянальны гімн падказвае " "Мы выйдзем шчыльнымі радамі"...Леканічнасьць музычнае пабудовы старадаўніх зваротаў з аднаго боку,глыбіня пачуцьцяў з другога боку,зрабіліся самабытнымі сваімі асаблівымі рысамі беларускай народнай песьні,каторыя адрозьніваюць яе ад песьні іншых народаў.Беларусь і яе жыхар заўсёды мае душу поўнай радасьці і сьпеўны гумар.Гістарычныя падзеі-ваенныя віхры,пажары вёсак і гарадоў,зьнішчэньне помнікаў беларускай культуры,высылка лепшых сыноў нашае краіны ў сібірыйскую тайгу на сьмерць-не зьмянілі Беларуса.Фактам зьяўляецца тое,што характар беларускіх песьняў захаваўся на працягу тысячагодзьдзяў,яны дайшлі да нашых дзён ува ўсёй сваёй непаўторнай сьвежасьці і аргінальнасьці. Агульны характар беларускай народнай песьні склаўся пад уплывам псыхалёгіі беларускага народу.Беларус па сваёй прыродзе і характару зьяўляецца стойкім,бадзёрым у сваім пакутным жыцьці,веруючы ў перамогу да пакананьня сваіх перашкодаў, і таму песьні ягоныя вызначаюцца леканічнасьцяй музычнае мовы,мудрай ашчаднасьцяй і стрыманасьцяй сродкаў выражэньня.

Беларус ёсьць шчыры,адкрыты і просты,але побач з гэтым ён перажывае і адчувае глыбока і балюча, дык і песьням ягоным уласьцівая свойскасьць,глыбокая шчырасьць,якія адразу сягаюць у душу чалавека ды моцна захопліваюць яе.Беларус глыбока закаханы ў сваю прыроду,і песьням ягоным надана характэрныя рамантычныя настроі,зьвязаныя з адчуваньнем прыгожых краявідаў роднай Маці-Беларусі. Першы даў пачатак беларускім вайсковым песьням пасьля заняпаду Вялікага Княства Літоўскага,Арамовіч Ігнат Мікалаевіч.Абвешчаньне Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі-25 Сакавіка 1918 г.ды ў 1920 г.творыцца прафэсыйная музычная культура,выкарыстоўваючы эмацыянальныя і ладавыя багацьці,закладзеныя ў фальклёры.Да стварэньня нацыянальнага стылю ў беларускай музыцы бярэцца Уладзімер Тэраўскі:"На Купальле"-1922 г.,М.Чарота -душэўная,шчырая і цалкам вытрыманая ў народна-беларускім дусе музыка.Камп.У.Тэраўскі выдаў зборнік песьняў "Беларускі Лірнік",Бэрлін - 1922 г..Некаторыя гэтыя-ж песьні жаўнеры слуцкага збройнага выступленьня 1920 г.ды Слуцкай Брыгады сьпявалі ў часе яе тварэньня і разбраеньня.

Камп.У.Тэраўскі аб сваёй працы над гарманізацыяй беларускіх народных песьняў так пісаў :"Пры гарманізацыі песьняў я стараўся цалкам захаваць народную мэлёдыю". Сваімі апрацоўкамі камп.У.Тэраўскі даказаў,што беларускія песьні паводле свайго хараства і багацьця ня горшыя за песьні іншых народаў,што ў іх,як у люстры,адбіваецца ўвесь духовы настрой гаротнага сяляніна.На ўвагу заслугоўвае кампазытар А.Туранкоў,каторы шмат чаго зрабіў,як шматлікія рамансы,творы для сымфанічнай аркестры, як "Сюіта ","Фантазыя ","Рапсодыя "- Яны усе на беларускія тэмы, -опэра "Кветка шчасьця","Купальле", і таму ягонае імя ставіцца побач з кампазытарамі, якія найбліжэй падыйшлі да стварэньня сапраўднай беларускай музычнай культуры.У творах М.Равенскага як мастацкія апрацаваньні беларускіх песьняў,вялікія харавыя творы "Шыпшына","Слуцкія ткачыхі", "Чаму-ж мне ня пець","Фантазыя"для скрыпкі з фартапіянам","Сюіта",на беларускія тэмы для фартапіяна,опэра "Браніслава",дык ува ўсіх гэтых творах і шмат іншых самабытнасьць творчай індывідуальнасьці аўтара,тэхнічная дасканаласьць, шуканьне новых магчымасьцяў большае выразнасьці.

Тое самае трэба сказаць і пра кампазытараў,як: К.Галкоўскі,Л.Рагоўскі,В.Чуркін,А.Грыневіч,М.Аладаў,Я.Прохараў,М.Равенскі /1896-1953 гг./ і народны артыст Беларусі Вячэслаў Селях-Качанскі, якія зьяўляюцца зьбіральнікамі,прадаўжальнікамі ды носьбітамі беларускай народнай песьні і разьвіцьця беларускага прынцыпу ў музыцы.
Вышэй пералічаныя кампазытары ўздымаюць беларускую песьню на высокі мастацкі ўзравень, глыбока і ўдумліва падходзяць да захаваньня ў мастацкіх творах асаблівасьцяў беларускага калярыту.Творчая дзейнасьць усіх выменяных тварцоў беларускай народнай песьні можа служыць прыкладам няўтомнай працы над праблемай народнасьці ў музыцы і ў песьні,праблемай,якая стала перад імі яшчэ ў часе першых спробаў творчага засваеньня беларускай песьні ў моладасьці і рэалізаваньня пасьля 25 Сакавіка.
Нельга абмінуць творчую дзейнасьць на эміграцыі Міколы Шчаглова-Куліковіча/1897-1969 гг/, каторы выдаў пры дапамозе Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Клеўлендзе наступныя зборнікі: "Беларускі песенны зборнік" -1954 г.,другая кніжка "Беларускі песенны зборнік "- 1955 г., трэцяя кніжка "Беларускі песенны зборнік"- 1960 г. і "Калядоўшчыкі "-1961 г..

Народны артыст Беларусі Вячаслаў Селях-Качанскі, які зьяўляецца ўкладальнікам гэтага "Зборніка песьняў Беларускага жаўнера", стараўся даць найбольш распаўсюджаньня ды прыгожыя патрыятычныя, нацыянальныя, народныя, жаўнерскія, юнацкія, бытавыя і іншыя песьні, каб кожны суродзіч на эміграцыі змог зьберагчы скарбніцу нацыянальнай культуры і перадаць яе свайму пакаленьню.
У аснову " Зборніка песьняў Беларускага жаўнера" увайшлі песьні, узятыя з розных крыніцаў, як "Юнацкі Сьпеўнік" -Менск, I943 г. і іншыя.
Гэты сьпёнік бьў перавыданы на эміграцыі ў 1948 г. Згуртаваньнем Беларускіх Скаўтаў на чужыне, але гэта была вельмі сьціплая колькасьць.
Аднак народны артыст Беларусі Вячаслаў Селях-Качанскі, бачучы недахоп у гэтай галіне, пад канец 86-ых угодкаў свайго жыцьця папоўніў і апрацаваў мэлёдыю і шмат песьняў даў у зборнік свае кампазыцыі.

На гэтым месцы Саюз Беларускіх Вэтэранаў у вольным сьвеце і Галоўны Штаб Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у ЗША складаюць усім тым,што прычыніліся да выдачы гэтага зборніка нацыянальную падзяку: а.пратап.М.Лапіцкаму,а.др. С.Боўбялю,народнаму артысту Беларусі В.Качанскаму,гасп.камп.Д.Верасаву,гасп.П.Звоннаму,гаспадарышні Галіне Варанцовай,гасп.капітану Ю.Рымку,гасп.кіраўніку ЗБАВ у Саўт Рывэр,Н.Дж.,капітану М.Манцівoдзе,гасп.палк.П.Саўчыцу,а таксама і тым,якія аказалі матэрыяльную дапамогу:Беларускаму Кангрэсаваму Камітэту Амэрыкі,гасп.маёру А.Банкету,гасп.палк.А.Плескачэўскаму,кс.В. Чарняўскаму,гасп.інж.Э.Ясюку і гасп.А.Дэмшы.

Палкоўнік Н.Мядзейка

Саўт Рэвэр,Н.Дж.,ЗША,1975 г.

# І.БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІМН

Словы М.Краўцова Музыка У.Тэраўскага

Перагарманізаваны на 2 галасы В.Качанскім



1. І. Мы вый-дзем шчыль-ны-мі ра-да-мі на
2. На бой! За шчась-це і за во-лю на-



2. воль-ны,род-ны свой прас-тор; Хай
ро-ду слаў-на - га сваі- го! Бра-



3. во- ля веч-на бу-дзе з на-мі, а
ты,цяр-пе-лі мы да- во- лі... На



4. гвал-ту мы дамо ад-пор,да-мо ад-пор! Ня
бой! У-се да ад-на-го,да ад-на-го ! І-



5. хай жы -ве ма - гут-ны,сьме-лы,наш
мя і сі- лу Бе-ла-ру-са ня-



6. бе- ла-рус-кі род-ны дух,род-ны дух! Штан-
хай па-чу-е і ба-чыць той,ба-чыць той,хто



7. дар наш бел-чыр - во- на-бе-лы пак-
сьме- е нам нясь- ці пры-му-сы і

рыў са-бой на-род-ны рух. Бра-

8. пер-шы вык-лі-ча на бой.

ты да шчась-ця мы пад-хо- дзім хай

гром гры-міць яш- чэ мац-ней! У кры-

ва-вых му-ках мы на - ро-дзім жыць-

цё Рэс-пуб-лі-кі сва -ёй,жыць-цё Рэс-

пуб-лі-кі сва - ёй!

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны,родны свой прастор;
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор,
дамо адпор !
Няхай жыве магутны,сьмелы,
Наш беларускі родны дух,
родны дух !
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух .
На бой ! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго !
Браты,цярпелі мы даволі ...
На бой ! Усе да аднаго !
Да аднаго !
Імя і сілу Беларуса
Няхай пачуе і бачыць той,
бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.
Браты да шчасьця мы падходзім
Хай гром грыміць яшчэ мацней !
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваёй,
жыцьцё Рэспублікі сваёй !

Byelorussian National Anthem

Words:Makar Krautsou

English trahslation : By Miss Vera Rich

Come,we shall march in joint endeavour
To the free spaces of our native land,
Let freedom dwell with us forever!
And every onslaught we'll withstand!

Long live the Byelorussian spirit brave,
The bold free spirit of our nation!
White-red-and-white above the banners wave,
Above our fight for liberation!

To arms! May happiness and freedom
For our brave people in the fight be won;
Too long in torment we were bleeding,
To battle, each and every one!

Ah,may the Byelorussian name and might
Be seen and head from near and far
By all who seek to rule us without right
Or first dare challenge us to war.

My brothers,we march on to fortune;
Let thunder roar still louder in its strife!
We bring to birth in anguished torture
For our Republic a new life!

## 2.БЕЛАРУСЬ НАША МАЦІ-КРАІНА



Словы Н.Арсеньневай

Музыка М.Куліковіча

Moderato maestoso

І.Бе-ла -русь!На-ша Ма-ці-Кра - і- " -

ла Не

на!Ты з нас моц-ных зра-бі лю -дзей. за-

гі-ну-лі мы і ня згі- " - нем,па-куль

вя- дзеш! за-

ты нас на- пе-рад . Не гі-ну- лі

ты

мы і ня згі - " - нем,па-куль нас на-

пе- рад вя-дзеш !

Беларусь!Наша Маці-Краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня згінем,
Пакуль ты нас наперад вядзеш!
Не загінулі мы і ня згінем,
Пакуль ты нас наперад вядзеш!

Пастаім за цябе,як асілкі,
Нашы сэрцы палаюць агнём;
Дружна,мужна за лёс свой расьцьвілы
Супроць чорнае моцы мы ідзём.
Не шкада нам жыцьця маладога,
Не шкада нам гарачай крыві,
Абы толькі праменнай дарогай
Крочыў горда народ наш жывы!

Прысягаем табе мы сягоньня,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве,-
Нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
Мы ня зганьбім,мы ўславім яе!

# 3.ЗАКЛІК ЗМАГАРОЎ

Словы М.Кіпель Мэлёдыя У.Тэраўскага

Гарм.В.Качанскага




1. Гэй,хто жыў,усе грамадою,шчы-рым сэр-цам



і ду--шо-ю, станьце ў наш круг! Бе- ла -



русь,нас зак-лі- ка-е,ма-ці сы-на



вып-раў-ля-е. Го-дзе зьдзек цяр -пець! Годзе!

Крык.



Ня-хай жы--ве Незалежная Бе-ла



русь,ня -хай жы- ве

Гэй,хто жыў,усе грамадою,
Шчырым сэрцам і душою,
Станьце ў наш круг!
Беларусь,нас заклікае,
Маці сына выпраўляе.
Годзе зьдзек цярпець!Годзе!
Крык .

Няхай жыве Незалежная Беларусь,
Няхай жыве !
Годзе глуму,годзе зьдзекаў,
Чым кармілі нас ад веку
Нашыя браты !

Словам,чынам і адвагай,
Ваяваць ідзем з няпраўдай
Усюды на ўвесь час!
Хоць жыцьця свайго пазбудзем,
Але сьмела мы здабудзем -
Вольную Беларусь !
Няхай жыве Незалежная Беларусь !
Няхай жыве !

# 4. ПАГОНЯ

Словы М.Багдановіча Музыка М.Куліковіча

Allegretto







Двое


















Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,-
Успомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні,
Рвуцца,імкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Крывіцкай Пагоні
Ні разьбіць,ні спыніць,ні стрымаць.

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі,прад вамі-гады...
Вы за кім у пагоню сьпяшыце,
Дзе шляхі вашы ідуць і куды?

Мо яны,Беларусь,панясьліся
За тваімі дзяцьмі наўздагон,
Што забылі цябе,адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон ?

Беце ў сэрцы іх -беце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць !
Хай пачуюць,як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная,Маці-Краіна !
Ня ўсьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач,ты прыймі свайго сына
За цябе яму ўмерці дазволь!...

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай зброяй далёка грымяць...
Старадаўняй Крывіцкай Пагоні
Ні разьбіць,ні спыніць,ні стрымаць.

## 5. О, БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА

Словы У. Дубоўкі          Музыка М. Куліковіча

Мерна, паволі

1. О, Бе-ла-русь, ма - я шып-шы-на,
зя-лё-ны ліст, чыр-во-ны цьвет! У вет-ры
дзі-кім не за - гі-неш, чор-на-быль-
лём не за- рась- цеш.

О, Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет!
У ветры дзікім не загінеш,
Чорнабыльлём не зарасьцеш.

Палеткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца пакалю,
Тваіх вачэй пад коляр сталі
Праменьні ясныя люблю.

Ніколі пройме з дзікім ветрам
Не разьвіваць дзявочых кос,
Імкнемся праз імкненьня сьвету,
Каб радасьць красавала скрозь.

Варожасьць шляху не зачыніць;
У перашкодах дух расьце.
О,Беларусь,мая шыпшына,
Зялёны ліст,чырвоны цьвет!

## 6. ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ

Словы К.Буйлы

Гарманізацыя В.Качанскага

I. Люб-лю наш край, ста-рон-ку гэ-ту,
дзе я ра-дзі-ла-ся, рас-ла, дзе пер-шы
раз паз-на-ла шчасьце, сьля-зу ня-до-лі
пра-лі - ла

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі,
І хаты ў зеляні садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.

Люблю раку,што свае воды
Імчыць у невядомую даль,
І жоўтасьць берагоў пяшчаных,
І яснасьць чыстых яе хваль.
Люблю вясну,што ў краскі,у зелень,
Прыстроіць цэлую зямлю,
На гнёздах буслоў клякатаньне
І сьпеў жаўраначка люблю.
Люблю гарачку сьпёку лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць,а ў чорных хмарах
Маланка зігаціць агнём.
І восень сумную люблю я,
І першы звон сярпоў і кос.
Як выйдуць жнеі збожжа жаці,
А касьбіты - на сенакос.
Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ў вузор.
І белы сьнег,што ўсё пакрыўшы,
Ірдзіцца блескам ясных зор.

Люблю ў пагодную я ночку
Дапозна на двары сядзець,
Сачыць за зорачак дрыжэньнем,
На месяц залаты глядзець.

Люблю,як сонейка заходзіць
І бераг хмаркі залаціць,
Вячорнага,як голас звону,
К нам з ветру хваляю ляціць.

І песьню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца - плывуць.

Усё ў краю тым сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з шчасьцем першым я спазналась
І з гора першаю сьлязой.

І ўсё люблю,
Што так завецца -
Адзіным словам,Беларусь
І слова гэтага сьвятога
Ніколі ў сьвеце не зракусь.

## 7.ПЕСЬНЯ ВОЛІ

Словы М.Сяднёва    Музыка В.Качанскага

Maestoso

I. Ня прыдзе к нам во-ля са-ма і ад-не-куль, я-

на не пры-хо-дзіць, а трэ-ба, а час. З Ус-

хо-ду і За-ходу су-се-дзі з прад-ве-ку сва

бо-дай і ра-ем за-му-чы-лі нас. З, Ус-у-

1, 2

3

се мы жы-лі.

Ня прыдзе к нам воля сама і аднекуль,
Яна не прыходзіць, а трэба, а час.
З Усходу і Заходу суседзі з прадвеку
Свабодай і раем замучылі нас. 2 разы

Як стаяў над табой,
Сын нядолі худы,
І над цёмнай вадой
Пяяў песьні журбы ?

Што надыдзе пара –
Зьневажэньне міне,
Адраджэньня зара
Над народам блісьне.

І з балючых грудзей,
Беларусі дзяцей,
Над табой загудзе
Песьня вольных людзей.

# 9. СЛАЎЛЮ ЦЬЕ, БЕЛАРУСЬ!

Словы В.Гіруця

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм.В.Качанскага




I. Ма- е лю- бі-мы- я мясь-ці-ны, ста-



рон-ка род-на- я ма - я! Ня зна-ю



пры-га- жэй кра-і -ны і ніў та-



кіх ня зна-ю я, ня зна-ю я.

Мае любімыя мясьціны,
Старонка родная мая!
Ня знаю прыгажэй краіны
І ніў такіх ня знаю я, ня знаю я.

Люблю хадзіць тут раніцою
У бор сасновы па грыбы,
Люблю глядзець,як над ракою
Галінка схіліцца вярбы.
Іду знаёмаю сьцяжынкай,
Зьвініць,пяе птушыны бор.
Перада мною-неабдымны
Палёў раскінуўся прастор.
Цябе я слаўлю ў сваім вершы,
Мой Беларускі родны край
Жыві,красуйся,край мой,вечна,
Квітней заўсёды,нібы май!

## 10. ТУЖУ Я ПА РОДНАМУ КРАЮ



Словы А.Дрыгвіча Старадаўняя мэлёдыя

Гарм.В.Качанскага



I. Ту -жу я па род-на-му кра-ю і



згра-я

час-та гля-джу на Ўс-ход, дзе пры-



блу-даў чу- жа- я за- ку- ла на-




но-ва на - род,дзе на-род.

Тужу я па роднаму краю
I часта гляджу на Ўсход,
Дзе зграя прыблудаў чужая
Закула нанова народ,дзе народ.

Я помню ліхую гадзіну
Бурлівай,ваеннай пары...
У роспачы я вас пакінуў,
Сяброўкі мае і сябры.

Трывожныя думкі што ночы
Таўкуцца ў маёй галаве,
Пра тых з кім у шэрэгах крочыў,
З кім гарт набіраў і сталеў.

Дзе вы мае сябры па зброі?
Была-ж нас вялікая рацъ !...
Адважныя,храбрыя воі -
У далінах Эльзацу ляжаць.

Ня мрояцца болей ім крозы,
Ляжаць без магіл,без вянкоў;
Ня будзяць іх матчыныя сьлёзы,
Ня цешыць іх сінь васількоў.

А тыя,у баёх што не ўпалі,
Што вымкнулі з пекла агню,
Дзяўбуць мо сібірыйскія скалы
Ня радыя Божаму дню.

## II.КРАЙ МОЙ СІНІ



Словы А.Янішчыца

Старадаўняя мэлёдыя

Гарм.В.Качанскага










Край мой сіні,сон вяснавы
Сэрцу любы і дарагі.
Як кубанкі дзядоў зімовыя
Абкружылі цябе стагі.
Туманы наплываюць бялёсныя,
Закачаецца неба сінь -
І ўсплываюць над зялёнымі плёсамі
Жураўліныя касякі.
Праплываюць над зыркім верасам,
Над усьмешкамі і смугой.
Я ўпэўнена,хутка вернуцца
Да зялёных сваіх берагоў.
І дзядзькі,як стагі бухматыя,
Зноў гавораць: адлёт глядзі...
Край мой,песьня і мова матчына,
Ты на сьвеце такі адзін !

## 12.БЕЛАРУСЬ



Словы Н.Шкляровай — Старадаўняя мэлёдыя
Гарм.В.Качанскага

мне
Бе-ла-русь ма-я ма-ра, ма-я ве-
ра ад-на, Беларусь ма- я мне Ма-ці
і сьвятло ды і вяс-на.

Беларусь мне мая мара,
Мая вера адна,
Беларусь мая мне Маці,
І сьвятло ды і вясна.

Ці трава тая ў росах
І блішчыць так цяплынёй,
Ці то матчыны косы
Я краняю іх рукой?

Ці то зоры ды ў ночы
Сьвецяць гэтак да мяне,
Ці то матчыны вочы
Усьміхаюцца ўсё мне?

Ці то рэху ды зямля
Песьні дорыць мне свае,
Ці то маці мая
Калыханку мне пяе?

# 13. МАЁЙ ЗЯМЛІ

Словы Р. Дружыніна

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм. В. Качанскага

Сярэдня, не сьпяшаючыся



I. Ты і ля-сіс-та-я і лу-га-віс-та-я,



ты ба-ла-ціс-та-я, ма-я ра-дзі-ма-я,



ты і а-дзі-на-я род-на-я зям-ля.

Ты і лясістая
І лугавістая,
Ты балацістая,
Мая радзімая,
Ты адзіная-
Родная зямля.
Ты дарагая мне
І на яву і ў сьне,
Зямля маіх дзядоў,
Зямля маіх бацькоў,
Я да цябе іду
І свой лёс вяду.

## I4. БЕЛАРУСЬ ПЕРАД УСІМ

Словы і музыка А. Стэповіча

Maestoso

I. Бе- ла-русь, хай сло-ва гэ-та, бу-дзіць

но-вы дух між нас. Нам даб- ро я-

е-во мэ-та і най-выш-шы нам на

каз. Ні сьля-за, а- ні стаг-нань-не,

ні па -ко -ра, а- ні страх, толь-кі

пра-ца і зма-гань-не, гэ -та наш да

Беларусь перад усім



мэ-ты шлях.

Беларусь, хай слова гэта,
Будзіць новы дух між нас.
Нам дабро яе-во мэта
І найвышшы нам наказ.

Ні сьляза, ні стагнаньне,
Ні пакора, ні страх,
Толькі праца і змаганьне,
Гэта наш да мэты шлях.

Беларусі сын ніколі
Не зрачэцца сваіх праў,
Знойдзе дужасьці даволі,
Каб нявольнікам ня стаў.

Дык ці ў шчасьця дзень пагодны,
Ці ў буры дні благім
Знайма першы кліч народны:
Беларусь перад усім

## 15.НЕ ПАГАСНУЦЬ ЗОРКІ Ў НЕБЕ



Словы Я.Купалы

Мэлёдыя М.Янчука

Гарм.М.Равенскага

Moderato

зор-кі

І. Не па- гас-нуць ў не - бе,па-куль

не-ба бу- дзе, не за - гі-не край наш

род-ны,па-куль бу-дуць лю -дзі. Ноч-ка

цём-на-я на сьве- це веч-на не па-ну-

е, зер-не, кі-ну-та-е ў ні-ву,усходзе

4

ды кра-су - е. Бе-ла-

I.

Не пагаснуць зоркі ў небе,пакуль неба будзе,
Не загіне край наш родны,пакуль будуць людзі.

2.

Ночка цёмная на сьвеце вечна не пануе,
Зерне,кінутае ў ніву,усходзе ды красуе.

3.

Беларуская рукою сьветлай праўды сіла
Славу лепшую напіша Беларусі Мілай.2 разы гл.
вышэй.

4.

Зацьвіце наш край,як сонца пасьля непагоды,
У роўнай сіле,у роўным стане,між усіх народаў.
2 разы

I-шы -3-ці
2-гі -4-ты

# Іь.КРАЙ НАШ

Словы Н.Арсеньневай Музыка М.Куліковіча

I. Кра-ю наш, кра-ю наш, кра-ю

пуш-чаў і ніў за- ла-тых! Хоць вяс- на, хоць вяс-

на і ў бя-дзе нам сягоньня цьві-це, з на-мі

ты, з на-мі ты! Сплыў.

1 3 4

Краю наш, краю наш,
Краю пушчаў і ніў залатых !
Хоць вясна, хоць вясна
Ў бядзе нам сягоньня цьвіце,
З намі ты, з намі ты !

Знаем мы,знаем мы -
Маладым грэх у распачы стыць...
Сьцяг вышэй,сьцяг вышэй !
Каб дрыжэў ён у сонцы,як зьніч
Залаты,залаты !

Каб агнём,каб агнём
Душаў вогнішчы ён запаліў.
Каб праклён нашых дзён -
Несуцешна і горкі сумліў
Марай сплыў,марай сплыў !

Краю наш,краю наш,
Краю ніваў і пушчаў густых !
Хай імкнуць,хай імкнуць
На чужыне далёкай гады -
З намі ты,з намі ты !

## 17. ДАРАГАЯ БЕЛАРУСЬ



Словы П.Броўкі — Музыка У.Любана

I. Слаў-лю я свой край лю-бі-мы, по-ле

луг сва-ю за- ру, як ты сэр- цу май-му

мі-ла, да-ра -га -я Бе-ла-русь Як ты

сэр- цу май-му мі- ла, да-ра-

га- я Бе-ла- русь .

Слаўлю я свой край любімы,
Поле, луг сваю зару,
Як ты сэрцу майму міла,
Дарагая Беларусь. ...2 разы

Залацістыя прасторы
I мільёны ясных зор,
Рэкі,ціхія азёры,
Паласісты,шумны бор.

Ты нас ласкй атуліла,
I я ў шчасьці гаварыў,
Як ты сэрцу майму міла,
Дарагая Беларусь .

Не магла ты мне,прысьніцца,
Як ты,родная ўзрэсла.
Паглядзі,твая сталіца,
Быццам казка,расьцьвіла.

# 13. ПАДНЯТЫ РОДНЫ СЬЦЯГ ДЗЯРЖАВЫ



Словы невядомага аўтара

Гарм. В. Качанскага

Maestoso

1. Пад-ня-ту род-ны сьцяг дзяр-жа-вы, ад даў-ніх спаў-ша-га вя-коў, вя-коў, і з дзён мі-нуў-шай прод-каў сла-вы а-жыў, жы-ве наш край із-ноў і з дзён мі-нуў-шай прод-каў сла-вы, а-жыў, жы-ве наш край із-ноў.

Паднятьі родны сьцяг дзяржавы,
Ад даўніх спаўшага вякоў, вякоў,
І з дзён мінуўшай продкаў славы
Ажыў, жыве наш край ізноў. ..2 разы

Ажыў і княжы замак гонкі,
Душа і сьведка даўніх год,
А з ім і з песьняй роднай,звонкай
І беларускі наш народ.

У баі мы створым дысцыпліну,
Сяброўства цэмэнтам скуём,
Сваю каханую Радзіму
Мы вечнай славай спаўём.

Глядзяць з павагаю ўсе твары,
Усьмешка вуснамі бяжыць,бяжыць,
Хвіліна гэта-думак чары,
Мы хочам жыць,мы будзем жыць!

Мы зробім усё,каб жыла Маці,
Каб не памерла нам на век.
Яднайцесь з намі,нашы брацьця,
Каб Беларус быў чалавек!

# 19. ПАЎСТАНЬ, НАРОД!

Словы Я. Купалы

Музыка М. Куліковіча

Рашуча

I. Паў-стань, на- род ! Прач-ні-ся, Бе-ла-

ру -се! Зір-ні на Баць- каў- шчыну, на ся-

бе! Зір-ні, як во-раг ха-ту і зям-лю раст-

ру-сіў, як твой на- ва-ла злыд-няў скарб гра-

бе! Паў-стань, на- род! Для бу-ду- чы-ні

шчась-це ты строй, каб тут ня строіў больш су-

сед! Ня дай-жаў гэ-ты гроз-ны час прапасьці! -

## Паўстань, народ!

Пра-паў-шым не па-це-шыць шчась- цем сьвет.

Сва-ю ма-гут-насьць пакажы ты сьве-ту,

свой край ся-бе ў па-ша-не мець пры- мусь паў- стан, на-

род! Зкры- ві і сьлёз кліч гэ- ты.. Ця-бе, ця-

бе ча-ка-е Ма- ці- Бе- ла - русь !

Паўстань, народ! Прачніся, Беларусе !
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе !
Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе !

Паўстань, народ! Для будучыні шчасьце
Ты строй, каб тут ня строіў больш сусед!
Ня дай-жа ў гэты грозны час прапасьці!-
Прапаўшым не пацешыць шчасьцем сьвет.

Сваю магчымасьць пакажы ты сьвету,
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь!
Паўстань, народ! З крыві і сьлёз кліч гэты...
Цябе, цябе чакае Маці-Беларусь!

Словы Я.Купалы

Музыка М.Кулікові...

Мерна

I. Мо-ва род-ка-я, мо-ва дзя- доў!

Ін-шай мо-вы мы ў сэр-цы ня чу-е...

Мі-ла - гуч-нась-цю слоў ты,

му-зы-ка сэр-цы ча- ру-еш. Мі- л...

гуч-нась-цю слоў, ты як му- зы-...

сэр- цы ча -ру -еш.

Мова родная,мова дзядоў!
Іншай мовы мы ў сэрцы ня чуем;
Мілагучнасьцю слоў ......
Ты,як музыка,сэрцы чаруеш. :..2 разы.
.....:

З-пад вясковых прыветлівых стрэх
Пераліўна зьвініць ад сьвітаньня,
Бы дзявочы раскацісты сьмех,
Быццам першае ў сэрцы каханьне.

Мова наша-буйны цьветабой;
Разьлілася ў ёй першая радасьць;
Словы матчыны сыпалі з ёй,
Як цьвяточкі адцьвіўшага саду.

## 21.БАЦЬКАЎСКАЕ СЛОВА



Словы Я.Купалы

Музыка М.Куліковіча

I. Ты зжы-ло-ся з на-мі,баць-каў-ска-е

слоў-ца,як-бы ко-рань з дрэ-вам як-бы з не-бам

сон-ца; дзе-ліш з на-мі веч-на ўсё, што з на-мі

хо-дзе ў бла-гой і доб-рай ма-ча-се-пры-

го-дзе.

Ты зжылося з намі,бацькаўскае слоўца,
Як-бы корань з дрэвам,як-бы з небам сонца;
Дзеліш з намі вечна ўсё,што з намі ходзе
У благой і добрай мачасе-прыгодзе.

І жыло,як будзеш вечна з намі жыць,
Грамадой мільёнаў у сьвеце гаманіць.
З попелу мінулых дзён сьляпых,крывавых
Весела ўзыйдзе рунь сьвятлянай славы.

І радзімым словам,рукой мазалістай
Беларусь упіша на старонцы чыстай
У кнігу ўсіх народаў,вольна ў непрымусе,
Сьветлую аповесьць роднай Беларусі.

## 22. ПЕСЬНЯЙ ТОЛЬКІ

Словы Я.Купалы — Музыка М.Кулiковiча

Мерна

I. Песь-няй толь-кі на сьве- це жы-

ву я, праз я- е тап-чу толь-кі ра-

су; ра-су . Пась-ці-га-ю, як ёй за-па-

ну- ю, не-дась-ціг-лу-ю бы-

ту кра-су, кра- су.

Песьняй толькі на сьвеце жыву я,
Праз яе тапчу тольку расу,расу.
Пасьцігаю,як ёй запаную,
Недасьціглую быту красу,красу.
Сонца ўзяўшы агністае ў рукі,
Што гарыць над бязьмерам палёў,
На малочным шляху тым бяз мукі
Чалавека да шчасьця-бы вёў.
Гэтак песьняй мой дух маладзіцца,
І на сьвеце жыву толькі ёй,
Хоць пішу свае долі страніцы
З свайго сэрца гарачай крывёй.

# 23.РОДНАЕ СЛОВА



Словы Я.Купалы

Музыка М.Куліковіча

Moderato

I. Ма- гут-на-е сло-ва,ты,род-на-е

сло-ва!Са мной ты на- я-ве і ў сьне; ду-

шу мне зат-рэс-ла па-гуд-ка-ю но-вай,ты

песень наў-чы-ла мя- не; ду -шу мне зат-

рэс-ла па- гуд-ка-ю но-вай,ты пе-сень наў-

чы-ла мя - не.

Магутнае слова,ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сьне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай, ..2 разы
Ты песень навучыла мяне.

Загнанае слова,ты,роднае слова,
Ты крыўды,няпраўды змагло,
Хоць гналі цябе,накладалі аковы,
Ды дарма,-жывеш,як жыло.

Бяссьмертнае слова,ты,роднае слова,
Грымі над радзімай зямлёй,
Што родная мова,бацькаўская мова,
Мілей найбагатшай чужой!

# 24. ПОЛЕ, ПОЛЕ

Словы М.Кавыля

Музыка Д.Верасава

I. По-ле,по-ле! Ні- вы се-на-жа- ці ! За-ла-ты бязь-

меж-ны а-кі- ян.. Ці ня тут заў-

чо-ра ма- я ма- ці пра-лі -ва- ла

сьлё-зы на бурь-ян, ян

Поле,поле!..Нівы,сенажаці!..
Залаты бязьмежны акіян!..
Ці ня тут заўчора мая маці
Пралівала сьлёзы на бур"ян,Ян.

Ці ня тут ад сонца і да зораў
Гнулі сьпіны бацька і браты,
І пяялі песьню болю,гора?
Поле,поле,чуеш гэта ты?

Не пазнаць вас,нівы,сенажаці,
Залаты бязьмежны акіян!
Вырывае згорбленая маці
Колькі раз аплаканы бур"ян.

І чамусьці косьці не скіголяць,
Б"ецца сэрца радасьцю маё,
Бо наўкол раскінулася поле
Не чужое,уласнае сваё.

# 25. Я СЫН ТВОЙ, МАЯ-БЕЛАРУСЬ!

Словы У.Клішэвіча

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм.В.Качанскага

Павольна

I. Я сын твой, ма-я Бе-ла-русь! Ку-дыб мя-
не бязь-лі-тас-ны лёс па цяж-кіх да-ро-гах жыць-
ця не за-нёс- я сын твой, ма-я Бе-ла-русь !

Я сын твой, мая Беларусь!
Куды-б мяне бязьлітасны лёс
Па цяжкіх дарогах жыцьця не занёс-
Я сын твой, мая Беларусь!

Я сын твой, мая Беларусь!
Якой не спаткаў-бы я цяжкай бяды,
І думкай і сэрцам з табой заўсёды-
Я сын твой, мая Беларусь !

Я сын твой, мая Беларусь!
Люблю я народ свой, айчыну сваю
І вам свае песьні ад сэрца пяю-
Я сын твой, мая Беларусь!

# 26.КІНЬ ВЕЧНЫ ПЛАЧ СВОЙ

Словы М.Багдановіча     Старадаўняя мэлёдыя

Гарм.В.Качанскага

Паволі

I. Кінь плач вечны свой аб старонцы! Няўжо-ж у цёмнай

ночы ты ня бачыш, што глядзіцца соцца

ў люстэрка- месяц ма-ла-ды ?

Кінь плач вечны свой аб старонцы!
Няўжо-ж у цёмнай ночы ты
Ня бачыш,што глядзіцца сонца
У люстэрка-месяц малады?

Ня згасла сонца!Сонца гляне,
Усіх падыйме ада сна.
Ён,гэты дзень,яшчэ настане,-
I ачуняе старана!

Я пад яе зімовай маскай-
Пад сьнегам-бачу твар вясны,
I вее верш мой дзіўнай казкай,
I ясны ён,як зорак сны.

# 27. МОЙ НАРОД

Словы А.Ставера Музыка В.Качанскага

Мерна

І. Мой на- род праз ста- го- дзь- дзі пра- нёс даб-ра- ту, да су

се-дзяў- на-ро-даў па- ва - гу, зна-е

сьвет на-ва-коль-ны я - го пра-ма-ту

і лю-боў да жыць- ця і ад - ва - гу.

Мой народ праз стагодзьдзі пранёс дабрату,
Да суседзяў - народаў павагу,
Знае сьвет навакольны яго прамату
І любоў да жыцьця і адвагу.

I заўсёды ў віхрах вякоў і нягод,
У зямной непагодзе суровай,
Вылучала між іншых мой мужны народ
Беларуская родная мова.

Мой народ зьберагае сваю даўніну.
Кожны нашаи гісторыі знаўца
Добрым словам успомніць не раз Скарыну
І пахваліць за мудрасьць Мсьціслаўца.

Каліноўскага імя навакол гучыць,
І Купалы і Коласа слова -
Навучыла іх край Беларускі любіць
Беларуская родная мова.

Мой народ ганарыцца сягоньня сваім
Партызанскім праслаўленым краем.
У вялікіх бяседах прад сьветам усім
Дэлегаты яго выступаюць.

Дык чаруй-жа людзей паміж моваў другіх
І гучы вечна ярка і нова,
Мова продкаў маіх дарагіх
Беларуская родная мова !

# 28.РОДНЫ КРАЙ

Словы У.Клішэвіча Музыка В.Качанскага

Упэўнена,маршам

І. Род-ны край!Як-за- быць на раў- ні-ну,на ба-

га-тых па-лет-каў кра-су? У выг-

нань-ні свай-му я-ны сы- ну пры-ві-

тань-не зда-лё-ка ня -суць.

Родны край!Як забыць на раўніну,
На багатых палеткаў красу?
У выгнаньні свайму яны сыну
Прывітаньне здалёка нясуць.

Ціха гнецца на ветры калосьсе,
Мяккі подых шуміць у траве;
Гэта музыку хвалі разносяць,
Плаўна радасьці песьня плыве.

Дзесь далёка працягвае рэха
У гадзіну вячэрняй пары,
Бестурботнаю песьняй і сьмехам
Адгукнулася ў сінім бары.

Кожны дзень я трывожна згараю,
Памірыцца з жыцьцём не магу.
Толькі вы,успаміны аб краю,
Разганяеце ў сэрцы тугу.

Бэрлін,10.XII.1944 г.

# 29. ЗВАЖАЙ

Словы Т.Лебяды Музыка В.Громава

F

I. Гар-туй-ма ка-лё-ны, ар-лы ма-ла-ды-я! Шу-

гай-ма да-лё-ка у да-зор! Нас моладасьць на-ша на

крыль-лях уз-ды-ме да шчась-ця, да сон-ца, да

зор. Шчыль-ней ра-ды, мац-ней ра-ды, зва-

жай! Да- ро-гу моц-ным, ма-ла-дым! Мы

пой-дзем па кры-жах! Да - жах!

Гартуйма калёны, арлы маладыя!
Шугайма далёка ў дазор!
Нас моладасьць наша на крыльлях уздыме
Да шчасьця, да сонца, да зор.

Шчыльней рады,мацней рады,зважай!
Дарогу моцным,маладым !
Мы пойдзем па крыжах!
Шчыльней рады,мацней рады,зважай
Дарогу сьмелым,маладым!
Мы пройдзем па крыжах!

Мы моладзь,мы зроджаны ў буры,пажары,
Нам ясны дарогі-шлях,
І тое,што ўчора здавалася марай-
Сягоньня мы творым у жыцьці.
Шчыльней рады....

Няхай нас ня страшаць чырвоныя каты,
Бо мы на крывавы тэрор
Паўстанем сьцяною-хлапцы і дзяўчаты,
Каб даць ім патрэбны адпор.
Шчыльней рады....

Дарма сёгоньня каты скрыгочуць зубамі
Не згасіць ім нашу зару!
Мы болей будзем ніколі рабамі,
Бо кліч наш: Жыве Беларусь!
Шчыльней рады....

# 30. БЕЛАРУСЬ ТЫ МАЯ

Словы М.Кавыля

Музыка Д.Верасава

Tempo alla marcia

I. Бе-ла- русь ты ма- я, Бе-ла- - русь

" Няў- -гас-на-я зор-ка Вэ- нэ-ра!

Я аг- нём тва-їм веч-на га - ру-" -,

у тва- ё ў -вас- кро-шань-не ве-" "

1, 2 ру, я аг- 3 ру

Беларусь ты мая, Беларусь,
Няўгасная зорка Вэнэра!
Я агнём тваім вечна гару,
У тваё ўваскрошаньне веру.

У крывава-чырвоным вянку
Не завялі пялёсткі шыпшыны.
Бачу:госьці на Нёман-раку
Прыляцелі з далёкай краіны.

Вырай,доўга чаканы,расьце.
Груганьнё закрычала над лугам.
А ў тых бела-крылых гасьцей
На грудзёх залатыя кальчугі.

## 31.РАЗЬВІТАНЬНЕ



Словы У.Лойкі

Музыка Іванова

I. Бы - вай мой род-ны кут і зьвяз, бы-
вай-це вы лу-гі і го-ні! І -ду ад
вас а-пош-ні раз пад зна-кам слаў-на- е Па-
го - ні, пад зна-кам слаў-на -е Па -го-
ні, го - ні.

Бывай мой родны кут і зьвяз,
Бывайце вы лугі і гоні!
Іду ад вас апошні раз
Пад знакам слаўнае Пагоні.2 разы

За волю ў бой жыцьцё заве.
Мае змагарныя дарогі,
Купальскай кветкі не сарве
Ніхто ў душы мне без трывогі.

І сам пайду за край,народ
Упорна з песьняй роднай звонкай,
Пад буру жудкіх непагод,
Мяне,што мучаць і старонку.

М" лягу дзесьці я ў далі
Пад небам,хмарным ці сьсінелым,-
Паўстануць тысячы з зямлі
Пад сьцягам бел-чырвона-белым!

Бывай мой родны кут і зьвяз!
Бывайце вы лугі і гоні!
Хай бачу ў лучнасьці я вас,
Пад сьцягам слаўнае Пагоні !

## 32.25 САКАВІК

Словы А.Змагара Музыка В.Качанскага

Maestoso

I. Ра- дзіў-ся ты у Мен- ску Бе-ла-рус-

кім, па- жа- рам край ды-міў-ся ў аг-ні ".

Наў-кол чу- жын- цы на па- лет- ках вуз- кіх тап-

та-лі скар- бы род- ных ніў, тап-та- лі

скар- бы род- ных ніў, наў - ніў.

Радзіўся ты ў Менску Беларускім,
Пажарам край дыміўся ў агні.
Наўкол чужынцы на палетках вузкіх
Таптал скарбы родных ніў. 2 разы

Народ стагнаў,угору ўзьмаў рукі,
Лавіў сьвятла недасяжны прамень.
Быў цяжкі час.Сярод нясьцерпнай мукі
Зьявіўся ты,прыгожы,сьветлы дзень.

Цудоўнай зоркай ўзьняўшыся высока,
Народу шлях,да волі асьвяціў,
I зашасьцелі казкаю асокі,
Мінулай славай лес загаманіў.

I Край ажыў.Народ памкнуўся к сьвету,
У вачох крынічыць радасьці струмень.
I нашых продкаў слаўны запаветы
Уваскрэсьлі ў гэты незабыты дзень.

Вялікі Дзень!Нічым цябе ня сьцерці!
Стагодзьдзям нат цябе не пераіжыць!
Вякі мінуць,а ты ў народным сэрцы
У песьнях,былях будзеш вечна жыць!

# 33. БЕЛАРУСКІ СТУДЭНЦКІ ГІМН



Словы невядомага аўтара Музыка А.Стэповіча

І. Да пр-цы брацьця, як а-дзін! І сьвет-лай бу-ду-чы-ні
дні прый-дуць у ад-каз на твор-чы ўз-скадым,
ва-ны-я усь-вя-тым а-гні. Для Бе-ла-рус-ка-
е зям-лі ня стра-шыць цяж-ка-сь пра-цы нас, мы
сі- лы ад-да- мо сва-е за пе-ра-мо -гі
сьвет-лы час, сьвет-лы час

Да працы.

Да працы брацьця, як адзін!
I сьветлай будучыні дні
Прыйдуць у адказ на творчы ўздым,
Скаваныя ў сьвятым агні.

Для Беларускае зямлі
Ня страшыць цяжкасьць працы нас,
Мы сілы аддамо свае за перамогі
Сьветлы час, сьветлы час. 2 разы

# 34. УПЭЎНЕНАСЬЦЬ

Словы А. Бялевіча — Музыка М. Кулiковiча

Рухава

I. Ня плач! На- вош- та сьлё- зы? Ня трэ-ба сум- ных

слоў! Рас- пусь-ца цяц- бя -ро- зы, мы

вер-нямся да-моў. За-пах- нуць рунь- ню го- ні,

за-пах- не луг тра- вой. Ты чу-еш ма- ці,

зво-ніць бя- -ро -за над стра- хой? Ня

плач на- вош- та сьлё- зы? Ня трэ-ба сум-ных

слоў! Рас-пусь- цяц- ца бя-ро-зы мы вер- нямся да-

Упэўненасьць




Ня плач! Навошта сьлёзы?
Ня трэба сумных слоў!
Распусьцяцца бярозы,
Мы вернямся дамоў.

Запахнуць руньню гоні,
Запахне луг травой.
Ты чуеш, маці, звоніць
Бяроза над страхой?

Ня плач! Навошта сьлёзы?
Ня трэба сумных слоў!
Распусьцяцца бярозы,
Мы вернямся дамоў.

Сьняжынкі вецер гоніць,
Сьнягамі беліць гладзь,
А мне здаецца-коні
Асьнежаныя ляцяць.

І коні топчуць гоні,
Травой зямля гудзе, як звон,
Матуля, мы прагонім
Чужынца з краю вон.

## 35. БЕЛАРУСЬ-РАДЗІМАЯ СТАРОНКА

Словы А.Дзеружынскага Музыка І.Кузьняцова

Allegretto

I. То чу-ваць сьпеў звон-кі жа-ва-

ран - ка, то чу-ваць як шэп-ча ці-хі

гай. Бе-ла-русь- ра-дзі-ма- я ста- рон - ка,

" Бе-ла-русь- лю- бі-мы край Бе- ла- русь- ра-

дзі-ма-я ста-рон- ка,Бе-ла-русь-лю

бі- мы край - да - ра - гі.

То чуваць сьпеў звонкі жаваранка,
То чуваць, як шэпча ціхі гай.
Беларусь-радзімая старонка,
Беларусь-любімы край.
Беларусь-радзімая старонка,
Беларусь-любімы край-дарагі.

Сонца ясна сьвеціць над табою,
Зелянеюць нівы і сады.
Узьняліся над тваёю зямлёю
Да нябёсаў гарады.

Люба нам лясоў тваіх гамонка,
Любы нам і квецені лугі.
Беларусь-радзімая старонка,
Край наш, сэрцу дарагі.

# 36. БЕЛАРУСЬ Б"Е Ў СЭРЦЫ

Словы М.Кавыля

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм.В.Качанскага

I. Шмат мы зьме- ра- лі кро- ка- мі да-ляў, не а-

дзін мі- лы воб- раз па- гас; мы і жы-вых, ня-жы- вых па-

кі- да-лі, а-ле край, род- ны, з на-мі, у

нас, а-ле край, род- ны, з на- мі, у нас

Шмат мы зьмералі крокамі даляў,
Не адзін мілы вобраз пагас;
Мы і жывых,няжывых пакідалі,
Але край,годны,з намі,у нас.2 разы

Ён гамоніць, галосіць, трызвоніць
Цяжкім стогнам разьбітых званоў,
Гострым мечам нястрыманай Пагоні,
Гучнай славай палеглых сыноў.

Ён грахоча, шуміць і шчабеча,
Буйнай хваляю Нёман-ракі,
Разгалосам птушынага веча,
Ціхім шэптам чароту, ракіт...

Ад зямлі непечатнага краю,
Да няведамых тых берагоў,
Беларусь б"е ў сэрцы, гукае
Лязгацен?нем чужых ланцугоў.

# 37. ПАД ГОМАН ВЯСЁЛЫ

Словы і музыка невядомага аўтара

I. Пад го-ман вя-сё-лы, пад звон ча-ры поў-най, пры-

збор-цы ўсіх нас тут у бя-се-дзе та-кой, у-

спом-нім мы брац-ця аб до-лі ня-роу-най, у-

сіх тых, што цер-пяць за край род-ны свой

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,
Пры зборцы ўсіх нас тут у бяседзе такой,
Успомнім мы брацьця аб долі няроўнай,
Усіх тых, што церпяць за край родны свой.

З гарачай душою ўсе лепшыя сілы,
Што выйшлі з народу,з сялянскай сям"і-
Адных ужо крыюць курганы-магілы,
Другія ў пакутах у трунах турмы.
І тварам,зьбялелым,прынікшы да кратаў,
Хтось зорку шукае ў небе начным,
Каб думкі занесла да роднае хаты,
Каб кліч перадала-чакайце вясны!
Лубянкі і Вронкі,у чужую краіну
Сасланы,выгнаны,як быццам на век,-
Бацькоў сваіх кінуў і любу дзяўчыну,
Сам церпіць і холад і голад і зьдзек.
Змагайся,мой дружа,з тыранам народу,
Змагайся за родны край,вольны,сьвяты,
Змагайся за лепшую долю,свабоду!
Хоць цяжка змагацца,а усё зможаш ты.
Пад гоман вясёлы,пад звон чароўны,
Пры зборцы ўсіх нас тут прысягу даём:
Ня зломяць нас віхры ў бойцы,няроўнай,
За зьдзек нашых брацьцяў мы помсту нясём.

## 38. ПРАЗ ЛУГІ-РАЗЛОГІ



Словы Э.Агняцьвета — Старадаўняя мэлёдыя

Гарм.В.Качанскага



I. Праз лу- гі-раз -ло- " " -гі па- між рэ-чак



звон- кіх пра-ляг-лі да- ро-гі род- на- е ста-



рон-кі.

Праз лугі-разлогі,
Паміж рэчак звонкіх
Пралеглі дарогі
Роднае старонкі.
Па адной дарозе
Пад Барысаў пойдзеш –
На рацэ Бярозе
Запаведнік знойдзеш.
Кліча вецер съвежы
Да другой дарогі,
Вабяць з даляў вежы,
Вабіць замак строгі.

Па шляху заходнім,
Там,дзе пушчаў гоман,
Мы ідзем да Горадні,
Дзе лагодны Нёман.
Прыдзем асьцярожна
У палац высокі:
Тут шумець ня можна,
Тут ступалі продкі.
Пад сівым скляпеньнем
Спынімся з табою,
Глянеш са здзіўленьнем
На старую зброю...
Кожны кут радзімы -
Гэта быль і казка.
Кліча край любімы:
Дзеці,калі ласка!

# 39. НЯСЬПЕТАЯ ПЕСЬНЯ

Словы А. Бачылы

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм. В. Качанскага

1. Сьця-жын-ка ляс-на-я, за рэч-ка-ю ха-та, у-рань-ні над лу-гам плы-вуць ту-ма-ны.. Ні-ко-лі, Ра-дзі-ма, чу-жой не бы-ла ты, ні-ко-лі жур-бой не пры-хо-дзі-ла ў сны, ні сны.

Сьцяжынка лясная, за рэчкаю хата,
Ураньні над лугам плывуць туманы...
Ніколі, Радзіма, чужой не была ты,
Ніколі журбой не прыходзіла ў сны.

Есьць дальнія землі, дзе высяцца пальмы,
Дзе ціхай парою ня ціхне прыбой,
Дзе з сіньню марскою ў прасторы бескрайнай
Зьліваецца неба, як сэрца з табой.

І што-б ні было там-чужыны ня трэба!
З маленства навекі душой палюбіў
Зялёнае поле,блакітнае неба,
Сьвітаньні над лесам і золата ніў.
Ёсьць дальнія землі-там вечнае лета,
І як-бы ні вабіў нязьведаны рай,
Навек астанешся ты песьняй нясьпетай,
Мая Беларусь!

.....

Алесь Бачыла нарадзіўся 2 сакавіка 1918 г.у вёсцы Лешніца,Пугавіцкага раёну Меншчыны ў сялянскай сям"і.Аўтар некалькі зборнікаў паэзыі і лібрэтаў да беларускіх опэраў,у тым ліку і да беларускай нацыянальнай опэры "Зорка Вэнэра", музыку да якой напісаў кампазытар Ю.Семяняка .

# 40.СЯБРОМ



Словы У.Клішэвіча | Старадаўняя мэлёдыя
Гарм.В.Качанскага



І. Наш лёс а-дзі-ны, мы ра-зам спа-ты-ка-лі,



га-ды тур-мы,выг -нань-не ў Сі-бір; мі-



на-лі на шля-ху чу -жы- я да-лі, нам



но-гі рэ-зау а-зі -яц-кі жвір.

Наш лёс адзіны,мы разам спатыкалі,
Гады турмы,выгнаньне ў Сібір;
Міналі на шляху чужыя далі,
Нам ногі рэзаў азіяцкі жвір.

А мы ішлі,ня зьвешвалі галовы,
Нясьлі з сабой агонь сьвятых надзей;
Былі нам гонарам свабоды словы,
Няшчаснымі былі сярод людзей.

Гады ішлі.І нас вайна спаткала,
Перамяніла нам нанова кайданы.
Загінула,сябры,нас у вайне нямала,
А дзе магілы іх,а дзе ляжаць яны ?

Шумяць трывожна Беларусі нівы,
Калыша вецер сонную траву.
З усіх сяброў адзіны я шчасьлівы,
Ды толькі тым,што на зямлі жыву.

Сябры мае жыцьцёвых няудачаў,
Прымеце мой на разьвітаньне сум!
Няволю цяжкую мы ўсё-ж адплачам,
А Беларусі сьцяг далей я панясу.

# 41.ПЕСЬНЯ ПРА НЁМАН

Словы А.Астрэйкі　　　　　　　　Гарм.Ю.Рымка



Р　І. Ой, Нё-ман　песь-ня і　сла- ва на-



ро-ду май-го　і зям-лі,　ма- гі-ла- ю



во-ра-гам　цес -　най, ня　раз тва-е



хва-лі бы -　лі.　Ма- гі-ла-ю　во-ра-гам



цес- най　ня　раз тва-е　хва-лі бы- лі.



– " –

Ой, Нёман і песьня і слава
Народу майго і зямлі,
Магілаю ворагам цеснай,
Ня раз твае хвалі былі.

Магілаю ворагам цеснай
Ня раз твае хвалі былі.

Ой, Нёман, ой, бацька мой, Нёман !
Як сонца, як дзень дарагі,
Касьцямі зьвяругаў шалёных
Усланы твае берагі – ..2 разы

А бераг высокі і роўны,
Жарсьцьвяны і ўкрыты лазой
Ня б"еш ты, а граеш чароўна
Блакітнаю хваляй сваёй ..2 разы

Ой, Нёман, ой, бацька любімы,
Як сонца, як дзень дарагі,
Садамі цудоўнай Радзімы
Твае расьцьвілі берагі.

# 42. МАРШ БЕЛАРУСЬ

Словы М. Кавыля　　　　Музыка Ю. Рымка



F I. Бе-ла-русь, ты ма-я Бе-ла-русь, не ў-



гас-на-я зор-ка Вэ-нэ- ра, я аг-



нём тва-ім веч-ным га- ру, у тва- ё ў-вас-



кро-шань-не ве- ру, у тва-ё ў-вас-кро-шань-не




ве- ру. Бе-ла- русь.

Беларусь,ты мая Беларусь,
Не ўгасная зорка Вэнэра,
Я агнём тваім вечным гару,
У тваё ўваскрошаньне веру. 2 разы

У крывава чырвоным вянку
Не шчарнелі пялёсткі шыпшыны...
Бачу:госьці на Нёман раку
Прыляцелі з далёкай краіны.

Вырай доўга чаканы,расьце,
Груганьне закрычала над лугам.
А ў тых белакрылых гасьцей
На грудзях залатыя кальчугі.

Яшчэ раз першы і канец-Беларусь!

## 43.СЫНЫ БЕЛАРУСІ



Словы М.Кавыля

Музыка Ю.Рымка

F I. Сы- ны Бе-ла- ру-ру- сі ня здра- дзяць да

ско-ну ста- рон-ку сва-ю. У джун- глях Бра-

зы-ліі,у кра-і Вашынгтона го-лас-на сьпя-

ва- юць пра Вя-лі- кі Са-ка- вік, на- усе- ны род-

сход,пра сва- ю Бе-ла-русь, слау- ны свой на-род.

Мы сы- ны тва- е.

Сыны Беларусі ня здрадзяць да скону
Старонку сваю.
У джунглях Бразыліі,у краі Вашынгтона
Голасна сьпяваюць пра Вялікі Сакавік,

Усенародны сход,
Пра сваю Беларусь,
Слаўны свой народ.
Мы сыны тваe.

Іх песьня,як лава,
Грыміць пад зарою
У нядродных краёх.
Пра вечную славу
Нязнаных героÿ,
Што ўпалі ў баёх.
За Вялікі Сакавік,
Усенародны сход:
За сваю Беларусь,
Слаўны свой народ.

Нясуць тую песьню
Магутныя хвалі
Хутчэй хай нясуць.
Туды,дзе балесьне
Душу закавалі
Забілі красу.
Хай бушуе Сакавік
Пярунамі б"е...
Беларусь,Беларусь,
Мы сыны тваe.

# 44. БЕЛАРУСКА

Словы Л. Геніюша

Музыка Ю. Рымка

p

1. Ка- лі ця-бе, мі-лы, кра- і- на пак-

лі-ча за род-ны зма-гац-ца на -род, то

су-му ня бу-дзе ў мя- не на аб-ліч-чы, 4- Ра-ні

123

стра-ху ня бу- дзе ў гру-дзёх

Канец 4-ты.

4

дзі-му ка- ха -ну сва- ю.

Калі цябе, мілы, краіна пакліча
За родны змагацца народ,
То суму ня будзе ў мяне на абліччы,
Ні страху ня будзе ў грудзёх.

Дзявочае сэрца ў хвіліне так важнай
Ніколі тады не здрыгне,
А буду ня менш за цябе я адважнай,
Каб сілы дадаці табе.
Бо сэрца дзяўчыны пад кужалем тонкім,
Як сэрца найлепшых сыноў,
Гарыць то-ж каханьне для роднай старонкі
І спадчыны нашых дзядоў.

Ты пойдзеш у бой,а я плуг накірую,
Каня накармлю,напаю,-
І так абаронім,засеем,збудуем,
Радзіму кахану сваю.

Бо гэтак,як стрэльбы і кулі як звонкай,
Як сіняе сталі мяча,
Заўсёды патрэба для нашай старонкі
Адважных хлапцоў і дзяўчат.

# 45. МАРШ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ



I-шы варыянт.

Словы Я.Купалы — Музыка М.Куліковіча.

Tempo di marcia

I. На ця- бе, на-ша мо -ладзь на-

дзе - я на-шай сум-най заб-ра-най зям-

" лі; твой ар- лі-ны па-лёт раз-цьму

ве - "- е і за-па-ліць век-веч-ны аг-

1-3 ні

4 ні- Русь.

На цябе, наша моладзь, надзея
Нашай сумнай забранай зямлі;
Твой арліны палёт цьму развее
І запаліць векавечны агні-Русь.

Ты разбудзіш прыспаныя сілы
І на вольны паклічаш прастор
З забыцьця беспрасьветнай магілы
Да бліскучага сонца, да зор.

Табе будуць нястрашны заломы,
Злыя ворагі, іх варажба.
Долю, праўду з маланак і грому
Тваё выкрасяць гарт, барацьба.

Схамяніся-ж ты, моладзь, арліна,
У бок другі віхры веяць прымусь,
Бяры сьветач, ідзі за судзьбінай,
Ідзі з словам сьвятым-Беларусь!

# 46. ГОДЗЕ

Словы Я.Купалы Музыка В.Качанскага

Moderato

1. Го-дзе брах-ні ўжо, пад-куп-ле- ных зво-дзў! Го-дзе тап-тань-ня праўд веч-на, сьвя-тых! Сьцеж-ку сва-бод-на-му ду-ху на-ро-ду, сьцеж-ку да сон-ца і зор за-ла-тых!

Годзе брахні ўжо, падкупленых зводаў!
Годзе таптаньня праўд вечна, сьвятых!
Сьцежку свабоднаму духу народу,
Сьцежку да сонца і зор залатых!

З году ў год жылі мы як жывёла,
З году да году чакалі сьвятла...
Што-ж нажылі мы,як глянуць наўкола,
Што-ж нам апека тут ваша дала?

Станем к змаганьню мы з ведзьмаю-крыўдай
Дружна,адважна,плячо ў плячо;
Рухне старое,хоць крэпкае з віду;
Яснае,вольнае створым жыцьцё.

Тое,што ўзята маною дачэсьне,
Вечне ня будзе душыць,як прыгон;
Наша вярнуцца к нам мусіць канечне,-
Гэтакі ўжо быту народаў закон.

Гібне памрока душыўша ад векаў,
Сонца і зоры к сабе сьвет завуць...
Сьцежку свабоднай душы чалавека!
К вольным дням вольныя людзі ідуць!

## 47. БАЯВАЯ ПЕСЬНЯ



Словы Янкі Мароза Музыка В. Качанскага

Марш

F

І. Раз-ва-лім мы Кар-туз Бя-ро-зы, кай-

да-ны пан-скі-я пар-вем ! За на-шых

ма-так му-кі, сьлё-зы, кроў во-ра-гаў сва-

Прыпеўка: жвава

іх праль-ём ! Гра-ма-до-ю шчыль-най,

друж-най да пля-ча з пля-чом. Кро-чым сьме-ла

мы і муж-на і да шчась-ця прый-дзём.

Развалім мы Картуз Бярозы,
Кайданы панскія парвём!
За нашых матак мукі,сьлёзы,
Кроў ворагаў сваіх пральём!

Прыпеўка:

Грамадою шчыльнай,дружнай да пляча з плячом,
Крочым сьмела мы і мужна і да шчасьця прыйдзём.
Сваіх сяброў мы вызвалім
І з цёмных карцараў турмы.
І чуе гібель сваю злодзей,
Бо суд народны справім мы!

Жыцьцё ў нас новае пачнецца
І волю кожны будзе мець.
Паноў і сьлед не застанецца
Ня будзе народ ужо калець.

## 48. МАРШ АДРАДЖЭНЦА

Словы К.Езавітава Музыка В.Качанскага

I. На пяць ка-вал-каў на-род наш па-
Пра-ва, бра-тэрст-ва і го-нар за-
бі - ты, па- дзёр- та зям-ля на
бы- ты! Сяб-ры зьнік-лі,наў-кол
шмат-кі- бе-ра- гі !
толь-кі во-ра-гі.

На пяць кавалкаў народ наш пабіты,
Падзёрта зямля на шматкі -берагі!
Права,братэрства і гонар забыты!
Сябры зьніклі,наўкол толькі ворагі.

Дык не чакай-жа ніскуль дапамогі!
Уласным натугам да долі ідзі !
Зубы сьціскай!Хай у крыві будуць
ногі !
Падай!Уставай!Абязьсілеў-паўзі!

Блізка ўжо,блізка надзеяў спауненьне!
Зара прадсьветная полымем б"е,
Сонца ўстае,а для ран загаеньня
Ваду жывую нам воля нясе.

Дык не чакай-жа ніскуль дапамогі,
Уласным натугам да долі ідзі!
Зубы сьціскай! Хай у крыві будуць ногі!
Падай!Уставай!Абязьсілеў- паўзі!

IO лютага 1925 г.

# 49.ПРЫВЕТ

Словы П.Дуброўскага Музыка В.Качанскага

Maestoso

MF I.Пры- вет та- бе,Кра- і - на- Ма- ці!
2.Нас во-раг злос- ны не ад- рэ- жа,

Ві-тань-не шлю мой род-ны кут! Хоць
ад род- на- е зям-лі. О, не! Зас-

мы заг- на- ны- я за ме-жы, рас-
та -лі- ся я - е сы- на-мі і

кі- ну- ты на цэ- лы сьвет.
тут у той да - ля- чы- не.

Прывет табе,Краіна-Маці!
Вітаньне шлю мой родны кут!
Хоць мы загнаныя за межы,
Раскінуты на цэлы сьвет.

Нас вораг злосны не адрэжа,
Ад роднае зямлі.О,не!
Засталіся яе сынамі
І тут у той далячыне. ...2 разы
Лятуцеем калі,як у храме
На родных гонях адпачнем.

# 50. ІДУЦЬ ЖАЎНЕРЫ БЕЛАРУСЫ

Словы і музыка П.Звоннага

I. І -дуць жаў-не-ры Бе-ла- ру-сы праз

вёс- кі,сё-лы,га-ра- ды пе-

ра-ла- маць пры- му-сы, што

у- се нас гня-лі вя-кі-га - ды. Ня-

хай больш во-ра-гі ня сьме-юць сва-

ю нам во-лю на-кі - даць,-сьця-гі Па-

го-ні ўжо ясь- не-юць, іх ру-кі

Ідуць жаўнеры Беларусы



моц-ны-я дзяр-жаць, іх -моц-ны-я дзяр-




жаць, дзяр- жаць

Ідуць жаўнеры Беларусы
Праз вёскі,сёлы,гарады
Пераламаць усе прымусы,
Што нас гнялі вякі-гады.

Няхай больш ворагі ня сьмеюць
Сваю нам волю накідаць,-
Сьцягі Пагоні ўжо ясьнеюць,
Іх рукі моцныя дзяржаць,
іх моцныя дзяржаць,дзяржаць.

З іх не адзін у вёсцы роднай
Пакінуў любую сваю,
Пагляд яе ў начы халоднай
Яму прыпомніцца ў баю.

Як птушка,думка ў даль нясецца,
Дзе хата родная,дзе плуг.
І ёй бястрашна ўперад рвецца,
Каб біць бандытаў-валацуг.

Ідуць жаўнеры і сьпяваюць,
Дзяўчатам сэрцы б"юць мацней,
Праменьні сонца ў зброі зьзяюць,
Калёны ідуць далей,далей.

А песьня рвецца над палямі:
-Прэч гадаўё з нашай зямлі!
Вы нашу кроў пілі гадамі,
Сьмерць вам,вы век свой аджылі!

Ідуць жаўнеры-Беларусы
Праз вёскі,сёлы,гарады,
Пераламаць усе прымусы,
Што нас гнялі вякі-гады.

Сьцяг бел-чырвона-белы вольны
У сэрцы кожнага і з іх.
Жаўнер Краёвай Абароны
На варце стаў правоў сваіх.

# 51. ПОЙДЗЕМ, ПОЙДЗЕМ

Словы Н.Арсеньневай Музыка М.Куліковіча

Allegro



ад- на

І. Пой-дзем,пой-дзем важ- і сьме- " -



ла ба-ра- ніць стрэ- хаў спа- кой !

шэ -рых



мя-

-" - Хай вят-ры нам на суст- рэч це-



ляць, край заў-сё-ды з та- бой !

род- ны мы



Род-ны край , мы заў- сё- ды з та-




бой з та-бой

Пойдзем, пойдзем адважна і сьмела
Бараніць шэрых стрэхаў спакой!
Хай вятры нам не сустрэч мяцелянць,
Родны край, мы заўсёды з табой!
Родны край, мы заўсёды з табой.

Пазьмятаем варожую сілу
Мы з лагоў і далінаў сівых,
Прад няўдачай цяжарам ня схілім,
Ня ўгнем нідзе мы галавы.

Дык наперад, адважна і сьмела
Бараніць нашых сёлаў спакой!
Хай вятры нам на сустрэч мяцелянць,
Родны край, мы заўсёды з табой!

## 52.У ГУШЧАРАХ

Словы Н.Арсеньневай Музыка М.Куліковіча

Tempo di marcia

I. У гуш-ча-рах, зат- ка-ных ім- гло-

ю, шэ-рым змро- кам на зор-ку-за- ру.

Ах-вя- ру- ем та- - бе мы ся-

гонь- " - ня, кож- ны ды кож-ны

час, Бе -ла- русь- " -

У гушчарах,затканых імглою,
Шэрым змрокам на зорку-зару.
Ахвяруем табе мы сягоньня,
Кожны ды кожны час,Беларусь.

І няма ў сэрцы жалю ці страху,
Мы адвагай жаўнерскай гарым.
Не маскаль-бальшавік і ня ляхі,
Але ты нас вядзеш да зары.

Хмараў дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятай,быльлём.
Беларусь,Беларусь залатая!
За цябе,за цябе мы ідзем!

## 53. МАРШ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Словы М.Кавыля Музыка Ю.Рымка




Р І.Мы ма-ла -ды- я ар-ля- ня-ты,кра-на-ем



крыль-ля-мі за - ру... Мы лю-бім



шчы-ра і заў-зя- та бацькоў Ра -дзі-му-



Бе-ла- русь - " -

Мы,маладыя арляняты
Кранаем крыльлямі зару...
Мы любім шчыра і заўзята
Бацькоў Радзіму-Беларусь.

Там сэрца мамы,сэрца таты,
Там пушчаў шум і птушак звон...
Ды на крыжы той край раськпяты,
Масквы лютай там прыгон.

Мы атрымалі эстафэту:
Штандар вызвольны з моцных рук.
Клянемся:волі сымбаль гэты
Мы данясем на Беларусь.

# 54. МАРШ БЕЛАРУСКАЙ ВЫЗВОЛЬНАЙ АРМІІ

Словы М.Кавыля

Музыка Д.Верасава

Moderato maestoso

ня
I. За- моў-клі, стог- гар-ма-ты, а
нуць

край наш і стог- і пла-ча. Крэм-
не

лёў-скі- чор-ны- ка- ты ў кры-
я я

ві ап"-я -не -лі га-ра-чай. Б. В.

А. В. В. А. Гар-туй-ся ў мар-шах па-

ход-ных ва- я- ваць, ва -я -ваць, пой-дзем

1-3 мы за край род- ны.
наш

4 Мы за край род- ны.
наш

Замоўклі,ня стогнуць гарматы,
А край наш і стогне і плача.
Крэмлёўскія чорныя каты
Ў крыві ап"янелі гарачай.
Б.В.А.!Б.В.А.!

Гартуйся ў маршах паходных
Ваяваць,ваяваць
Пойдзем мы за край наш родны.

Ці доўга стаяць на каленях?
Ці вечна рабамі мы будзем?
Ніхто нам ня дасьць вызваленьня,
Мы волю крыўлёю здабудзем.
Прыпеў ...........

Ня шмат нас сягоньня ў калёнах
Жаўнераў,адважных і сьмелых,
Ды заўтра паўстануць мільёны
Пад сьцягам бел-чырвона-белым.
Прыпеў .......................

## 55. МАРШ АРЛЯНЯТАЎ

Словы М.Кавыля

Музыка Д.Верасава

Vivace

I. Мы- Бе-ла -ру- сі воль-най ар- ля-

ня- ты- імк-нём-ся ў высь, у со-неч-ны прась-

цяг, дзе,як а- -рол, ма-гут-ны і кры-

ла-ты,- шу-га-е бел-чыр-во-на-бе-лы

сьцяг.Дзе,як а - рол,чыр-во-на-бе-лы сьцяг.

Мы-Беларусі вольнай арляняты-
Імкнемся ў высь,у сонечны прасьцяг,
Дзе,як арол,магутны і крылаты,-
Шугае бел-чырвона-белы сьцяг.

Дзе,як арол,магутны і крылаты,-
Шугае бел-чырвона-белы сьцяг.

Не спачываць,узьвіўшыся да зораў,
Не ў залатым раскошвацца жвіру,-
Мы хочам збыць старое наша гора,
Ісьці на бой за Маці-Беларусь.
Мы хочам збыць старое наша гора,
Ісьці на бой за Маці-Беларусь.

Ня час нам сяньня плакаць,сумнявацца,
Ня нам сьлязьлівіць сьветлы,новы дзень.
Мы любім сьпяваць,любім пасьмяяцца,
Ня здрадзім мы ніколі ў барацьбе.
Мы любім сьпяваць,любім пасьмяяцца,
Ня здрадзім мы ніколі ў барацьбе.

Мы-Беларусі вольнай арляняты-
Імкнёмся ў высь,у сонечны прасьцяг,
Дзе,як арол,магутны і крылаты,
Шугае бел-чырвона-белы сьцяг.
Дзе,як арол,магутны і крылаты,
Шугае бел-чырвона-белы сьцяг.

# 56. МАРШ МОЛАДЗІ



Словы Ул. Казлоўшчыка    Старадаўняя мэлёдыя
Гарм. В. Качанскага



I. Мы мо-ладзь бой-ка-я, ар -лы ма-ла-



ды- я, за на-мі і-дзе до- ля бра-тоў,



у на-шых ду-шах і дэ- і сьвя-ты- я, а ў



жы-лах на-шых пра-цоў-на-я кроў, у



на-шых ду-шах і - дэ- і сьвя-ты-я, а ў



жы-лах на- шых пра- цоў -на-я кроў.

Мы моладзь бойкая, арлы маладыя,
За намі ідзе доля братоў,
У нашых душах ідэі сьвятыя,
А ў жылах нашых працоўная кроў,

2 разы
У нашых душах ідэі сьвятыя,
А ў жылах нашых працоўная кроў.

А лепшую долю,мы,моладзь здабудзем,
Хаця-б было трэба вялікіх ахвяр.
Хаця-б было трэба вялікіх натугаў,
Хаця-б класьць жыцьцё трэба на аўтар.

Ня баймыся бураў,віхураў,марозаў,
Мы-дзеці працоўнай нашай сям"і.
Ня баймыся злыдняў ані іх пагрозаў-
І так калісь нават ляжам у зямлі.

Няхай нас ня страшыць ні голад ні холад,-
Да гэтага,брат прывыкай!
Вучыся,працуй і змагайся,як волат,
Братом ты сваім памагай.

Гартуй сваю волю і нэрвы,і цела,
І дух свой народны ўзмацняй!
Каб мог ты заўсёды рашуча і сьмела
Вясьці да свабоды свой край-Беларусь,
Каб мог ты заўсёды рашуча і сьмела
Вясьці да свабоды свой край.

# 57. ПАРТЫЗАНСКІ МАРШ

Словы невядомага аўтара Старадаўняя мэлёдыя

Гарм. В. Качанскага

Павольна, маршам



І. Сьля-за-мі край у-весь сьця-



ка- е, пры-гон зноў Бе-ла-русь цяр-



піць руч-ча-мі кроў бра-тоў сплы-



ва- е, чу-жын-цы хо -чуць нас зду-шыць,



зду-шыць. І -дзём у дзень, ідзём на-



ча- мі, сы-ны мы пуш-чаў і ля-соў. І-



бун- ны-
дзём тар- мі шля-ха-мі зьніш-ча-ем,



го-нім па-ла- чоў.

Сьлязамі край увесь сьцякае,
Прыгон зноў Беларусь цярпіць,
Руччамі кроў братоў сплывае,
Чужынцы хочуць нас здушыць.

Ідзём у дзень,ідзём начамі,
Сыны мы пушчаў і лясоў.
Ідзём бунтарнымі шляхамі
Зьнішчаем,гонім палачоў.

Ня плач сястра,ня плач матуля!
У бой адважны сын пайшоў.
Здабудзем волю штыхом,куляй,
Заплацім катам з барышом.

Ідзём у дзень...

Грыміць хай гром,маланка зьзяе,
Не загубіць Беларусаў.
Ужо зару дзень запаляе,
Мы выйдзем хутка і з лясоў.

Ідзём у дзень....

Паможа Бог,бо праўда з намі,
Ня будзе вораг панаваць.
Адважна ў бой,а над трунамі
Край родны будзе разьцьвітаць.

Ідзём у дзень...

# 58.МАЦІ-БЕЛАРУСЬ



Словы М.Чарняўскага Старадаўняя мэлёдыя

Запеўка-адзін Гарм.В.Качанскага

цябе
I. Ма- ці-род-най бе мы на-зы-ва -ем,

ў нас
у час лі-хі не кі-да-лі бя-дзе.Ты для

я бaль
праў-да,шчы-ра-’зям-на-я і сым- ве-ры ў

праў-
шчась-ця,у лю - дзей. Ты для нас да

шчы-ра-я,зям-на-я і сым-баль ве-ры у

шчась-ця ў лю -дзей .

Маці-роднай цябе мы называем,
У час ліхі не кідалі ў бядзе.
Ты для нас праўда,
Шчырая,зямная
І сымбаль веры ў шчасьця,у людзей.

Ты для нас праўда
Шчырая,зямная
І сымбаль веры ў шчасьця,у людзей.

Ты для нас -сонца.
Позірк твой пяшчотны
Мы адчуваем на сабе заўжды.

Таму спорыцца ў руках работа,
І ў песень голас
Звонкі,малады.

Для нас ты-будучыня...
Наш дзень жаданы.
Ім,край,усе сыны тваe жывуць...

І жураўлямі
Вежавыя краны
Над гарадамі сьветлымі плывуць.

## 59. ДУБ МАГУТНЫ

Словы А.Ш.

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм. В. Качанскага

Тэмп маршам, солё адзін

I Над ра-ко-ю, на прасторы, як у по- лі

вар-тавы, дуб ста-іць ма-гут-ны сіль- ны, ве-во-лат

- ка- вы. Ен ка-рэнь-ня-мі глы-бо-ка

ў зям-лю ў -рос, і зя-лё-на- ю чуп-ры-най

дас-та- е ня - бёс -бёс.

Над ракою,на прасторы,як у полі вартавы,
Дуб стаіць магутны сільны,волат векавы.
Ён карэньнямі глыбока ў зямлю ўрос,
І зялёнаю чупрынай дастае нябёс.

Тут ня раз вятры гулялі,завывалі над зямлёй,
Біў пярун,маланкі зьзялі ў нетрах цьмы начной.
Буры гнулі,віхры рвалі дуб той ля ракі,
Ён-жа,цьвёрды,непарушны,прастаяў вякі!

Так і наш народ,нязломны,як магутны дуб,стаіць;
Пасьля бураў,непагодаў,сьмела ў даль глядзіць.
У яго крыніца сілы-родная зямля,
А над ім надзея сонца,неба сінява...

# 60. ЖАЛОБНЫ МАРШ ГЕРОЯМ
## /Сьпі пад курганам герояў/.

Словы Я.Купалы

Мэлёдыя М.Равенскага
Гарм.В.Качанскага

Andante

МР І.Сьпі пад кур- га- нам ге - ро- яў,

сьпі пра- цаў- нік і зма- гар! Не-се-ны вер- на та-

бо-ю, ці-ха схі-ліў- ся штан-дар,- дар.

Coda 2.

Твой мы пра-цяг-ва- ем шлях.

Сьпі пад курганам герояў,
Сьпі працаўнік і змагар!
Несены верна табою,
Ціха схіліўся штандар.
Твой мы працягваем шлях.2 р.

Сьветлы твой дух адлятае,
Вечнасьці ў небе шукаць,
З шляху яшчэ раз кідае-
Сьцяг свой высока трымаць!
Гордым ты быў барацьбітам,
Волю высока цаніў;
Куляй варожай забіты,
Гонар жыцьцём адкупіў.
Мы не пахілім галоваў,
Не ўцячэм і з радоў,
Месца твае зойме новы-
Спомсьцім ахвярную кроў!
З кожнае кроплі паўстане
Сіла і воля,як сталь;
Кожны з нас волатам стане,
Сэрцаў ня зломіць нам жаль!
Моцнай узяты рукою,
Горда ўзьвіваецца сьцяг.
Сьпі пад курганам герояў!
Твой мы працягваем шлях.

# 61.ГЭЙ,СЯБРЫ ЎДАЛЫЯ



Словы М.В.Кіпель

Мэлёдыя У.Тэраўскага
Гарм.В.Качанскага

Адзін,або ўвесь хор унісонам



F І.Гэй,сяб-ры ў - да- лы- я!



Гук - нем мы вя-сё-лу-ю,пeсь-ню на-шу



род-ну - ю пра Ма- ці-Бе-ла -русь.



Бо мы ўсе сіль-ны -я, сы-ны я -е



вер- ны - я, бу-дзем пра- ца-ваць для я- е,




па- куль хо- піць сіл, хо-піць сіл.

Гэй,сябры ўдалыя!
Гукнем мы вясёлую,
Песьню нашу родную,
Пра Маці-Беларусь.

Бо мы ўсе сільныя,
Сыны яе верныя,
Будзем працаваць для яе,
Пакуль хопіць сіл,хопіць сіл.

Наш штандар працаўнікоў,
Ідэі Беларускае,
Трымаем моцна мы ў сваіх,
Мазалістых руках.

Няхай зьзяе высока,
Сонца праўды вечнае,
Сьвеціць,асьвятляе нам
Дарогу ў жыцьці!

3- раз ізноў як першы куплет,
а потым у канцы на Коду /гл.вышэй/.

## 62.МАРШ БЕЛАРУСКІХ ВАЙСКОЎЦАЎ



Словы Ю.Сяргіевіча Музыка Ю.Рымка

І. Мы ар – лы сва- іх род- ных прас- то- раў, на- ша

во-ля пад неб-ный бла-кіт, нас нау- чы- ла ад-

веч-на-е го – ра і ўла –жы –ла у ду-

шу ды-на –міт.

Мы арлы сваіх родных пpасюраў,
Наша воля пад небный блакіт,
Нас наўчыла адвечнае гора
І ўлажыла ў душу дынаміт.

Хто за намі той брат,па радзіме,
Хто супроць нас той вораг ліхі,
Мы ідзем праслаўляць тваё імя
Беларускі народ дарагі.

Мы ідзем на змаганьне за волю,
На змаганьне ўсіх перашкод,
Мы ідзем вырашаць тваю долю,
Дарагі Беларускі народ.

Не ўстрымае нас бура навала,
Мы жывем і гарым барацьбой,
Бо даволі і так панавала,
Злая крыўда над нашай зямлёй.

Не стрымаць,не скаваць ланцугамі,
Наш магутны арліны ўзьлёт...
Мы ідзем,каб усьцешыўся намі
Дарагі Беларускі народ!

## 63. КАЛІНА, МАЛІНА...

Словы невядомага аўтара Гарм. М. Равенскага

Адзін альт

1. Ка- лі- на, ма- лі - на

над я -рам ста- я -ла, над я-рам ста-

я - ла, ад сон-ца за - вя -ла.

Каліна, маліна над ярам стаяла,
Над ярам стаяла, ад сонца завяла.

Над ярам стаяла, ад сонца завяла.
Маці сваю Доню за год не спазнала.

Маці сваю Доню за год не спазнала.
-Доня-ж, мая Доня, якая ты стала.

4 як І-шы.

## 64.ОХ,ТЫ МАРОЗ,ОХ,ТЫ МАРОЗ...

Словы невядомага аўтара  Гарм.В.Качанскага

Адзін альт



I. Ох, ты ма - роз, ох,ты ма-роз,



ох,ты ма-ра - зі- на! - " - " -



Дый праз ця - бе, ма-ра-зі-на,пла-



ча ўся кра - і -на, - " "- на.

Ох,ты мароз,ох,ты мароз,
Ох,ты маразіна!
Ды праз цябе,маразіна,
Плача ўся краіна.

А ня так уся краіна,
Як малада дзяўчына.
Расплакалася дзяўчына,
Па вадзічку ідучы.

Ня плач дзеўка,ня плач красна,
Ня плач,не журыся,
Ды і на свайго мілога
Ідзі ды падзівіся.

## 65. А Ў ПОЛІ ВЯРБА



Словы невядомага аўтара Гарм. М. Равенскага

Andante

I. А ў по - лі вяр-

ба, пад вяр - бой ва -

да, там ха-дзі-ла, там гу -ля-ла

дзеў-ка ма- - ла - да, там

ха- дзі-ла, там гу - ля-ла

дзеў- ка ма - ла - да .

А ў полі вярба,
Пад вярбой вада,
Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка малада. ..2 разы

Дзеўка ад вады,
Хлапец да вады.
Пастой, пастой дзяўчыначка,
Дай каню вады!

Рада пастаяць,
Каню вады даць,-
Мае босянькія ножкі,
Студзённа стаяць.

Я зьніму парчу,
Ножкі абвярчу,
А калі назад вярнуся,
Боцікі куплю.

Не купляй ты мне,
А купі сабе:
Ёсьць у мяне татка і мамка,
Яны купяць мне.

# 66. ЧОРНАМОРАЦ

Словы невядомага аўтара    Гарм. У. Тэраўскага

Жвава













Гляну, гляну я ў ваконца,
Проціў яснага сонца.
Эх! Проціў яснага сонца,
Ці ня ўбучу чорнаморца.

Чорнаморац з вайны едзе,
Ды сямёра каней вядзе,
Эх!А восьменькі вараненькі,
Ды,як воран,ён чорненькі.

Стаў ён коні паганяці,
Стала вада прыбываці.
Эх! Стала вада прыбываці,
Чорнаморца патапаці.

Чорнаморац патапае,
Дый на мілую гукае,
Эх! Ратуй,ратуй мая міла,
Калі верна ты любіла!

## 67. ОЙ, ЗЯЛЁНА, ЗЯЛЁНА ДЫЙ У ЛУЗЕ ТРАВА



Словы невядомага аўтара — Гарм. А. Туранкова

Хутка і жвава. — На 2 галасы

Апр. В. Качанскага

Адзін альт










Ой, зялёна, зялёна ды ў лузе трава,
Таго-ж яна зялёна, што пад ёй вада.
    Ой, вясёла, вясёла ды ў мужа жана,
    Таго яна вясёла, што добра жыла.

Сьвеціць, сьвеціць месячык, ясная зара,
Асьвяціў дарожаньку, куды міл пайшоў.
    Пайшоў, пайшоў міленькі ад канца ў канец;
    Зайшоў, зайшоў міленькі ды ў краині
                                        дварэц.

## 68. А Ў САДЗЕ РЭЧАНЬКА

Словы невядомага аўтара Гарм. В. Качанскага

Запявала альт, павольна

І. А ў са-дзе рэ-чань-ка,

а ў са-дзе быст-ра-я, вып-лы-ва-лі

два чаў-ноч-кі і тры ры-ба-ло-вы,

ло-вы.

А ў садзе рэчанька,
А ў садзе быстрая,
Выплывалі два чаўночкі
І тры рыбаловы-ловы.

Адзін кажа-дзяўчына.
Другі кажа-рыбачка.
Трэці кажа-сэрца маё,
Ой,ці пойдзеш за мяне?

-На што мяне пытаеш,
Калі хаты ня маеш?
- Я пасаджу ў чужую,
Пакуль сваю збудую.

- Дый пастаўлю край сяла,
Жыві,міла,весяла...
-Тады была весяла,
Як ад мамкі ехала.

## 69.ПІСАР ГУСІ ГАНЯЕ...



Словы і мэлёдыя М.В.Кіпель

Гарм.В.Качаскага

І. Пі-сар гу-сі га-ня-е,к са-бе хлоп-цаў

гу-ка-е. Гэй,гі-ля гэй, гэй!

К са- бе хлоп-цаў гу-ка- е.

Пісар гусі ганяе,
К сабе хлопцаў гукае.
Гэй,гіля гэй!
К сабе хлопцаў гукае.

Ой,вы хлопцы малайцы,
Накажыце той дзеўцы,
Гля!Гэй,гэй!
Што ў чырвонай сукенцы.

Няхай замуж ідзе,
Няхай на мяне не чакае,
Гіля! Гэй, гэй!
Няхай на мяне не чакае.

Дзеўка ў сенях стаяла,
Ды ўсё гэта чувала.
Накапала карэньняў
Ды з-пад сіняга каменя.

Перамыла на рэчцы,
Запарыла ў малацэ,
Яшчэ корань не ўскіпеў,
А ўжо пісар прыляцеў.

– А што-ж цябе прынясло,
Ці лапата ці вясло?
–Прынёс мяне сівы конь
Да дзяўчыны на ўспакой.

# 70. ГЭЙ, У ЛЕСЕ ПРЫ ДАЛІНЕ

Словы невядомага аўтара        Гарм. У. Тэраўскага



I. Гэй, у ле-се пры да-лі- не



ў нас ста-ла- ся бя-да. Гэй, гэй!



у ле-се, у ле-се, у нас ста-ла-



ся бя-да.

Гэй, у лесе пры даліне
У нас сталася бяда.
Гэй, гэй! У лесе, у лесе,
У нас сталася бяда.

Гэй, у лесе ў гушчары
Калыхаліся камары.
Гэй, гэй! у лесе, у лесе,
Калыхаліся камары.

Дуб да дуба пахіліўся,
Камар з дубу зваліўся.
Гэй, гэй! У лесе, у лесе, камар з дубу
зваліўся.

Гэй,пабіў камар бакі
Аб дубовыя сукі.
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
Аб дубовыя сукі.

Гэй,пабіў камар калені
Аб дубовыя карэньні.
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
Аб дубовыя карэньні.

Ляціць муха ратаваці,
Зімнай вадой адліваці.
Гэй,гэй! У лесе,у лесе
Зімнай вадой адліваці.

Камарочку,родны браце,
Як-жа цябе ратаваці?
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
Як-жа цябе ратаваці?

Мне нічога не award,
Пакідаю сьвет я Божы.
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
Пакідаю сьвет я Божы.

-Пасылайце да аптэкі,
Ці ня будзе крыху лепей?
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
Ці ня будзе крыху лепей?

Пахавайце ў цёмным лесе
Пры зялёненькім арэсе.
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
Пры зялёненькім арэсе.

Будуць арэхі шчыпаць
І камарочка ўспамінаць.
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
І камарочка ўспамінаць.

А ды чый-жа гэта помнік,
Ці маёр,ці палкоўнік?
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
Ці маёр тут ці палкоўнік?

-Ні маёр тут,ні палкоўнік,
А сам камар супакойнік,
Гэй,гэй!У лесе,у лесе,
А сам камар супакойнік.

У бальніцу завязіце
І мяне там палажыце!
Гэй, гэй! У лесе, у лесе,
І мяне там палажыце!

Там добрыя дахтары,
Вумуць душу без пары.
Гэй, гэй! У лесе, у лесе,
Вумуць душу без пары.

Камарочку, родны браце,
Дзе-ж нам цябе пахаваці?
Гэй, гэй! У лесе, у лесе,
Дзе-ж нам цябе пахаваці?

Не хавайце пры даліне,
Бо вырыюць мяне сьвіньня.
Гэй, гэй! У лесе, у лесе,
Бо вырыюць мяне сьвіньня.

Не хавайце край дарогі,
Дратаваць будуць там ногі.
Гэй, гэй! У лесе, у лесе,
Дратаваць будуць там ногі.

## 71. У МЕСЯЦЫ ВЕРАСЬНІ ВЫПАЛА ПАРОША



Словы невядомага аўтара Гарм. У. Тэраўскага

Жвава

1. У ме-ся - цы ве-рась-ні вы-па-

ла па -ро- ша, дзед баб-ку

па-лю -біў, што бы-ла ха-ро -ша.

У месяцы верасьні выпала пароша,
Дзед бабку палюбіў, што была хароша.
І крывая, і сьляпая,
Яшчэ к таму і злая,
І крычыць, і вурчыць,
Проці дзеда не маўчыць.

-Убрыся бабка,
У новае бельля,-
Я-ж цябе павяду
З сабой на вясельля.

Убралася бабка
У новае бельля.
- Цяпер вядзі мяне,дзед,
З сабой на вясельле.

І ўзяў дзед бабку
За белую ручку,
Дый сьпіхнуў дзед бабку
З моста ў рэчку.

Цяпер бабка,кайся,
Крыху пакупайся,
А што бабка ўзнырне,
То дзед кіем папіхне.

Прышоў дзед да дому
І зачаў бажыцца:
-І я-яй і яй-богу,
Ня буду жаніцца!

Раздумаўся дзедка
І ў далоні плешча:
-Калі буду жыў-здароў,
Ажанюся яшчэ.

## 72.КОЗАЧКА-ТРАСУХА



Народны танец-песьня Музыка У.Тэраўскага

Апр.В.Качанскага



I. А мой баць-ка доб-ры быў:



Ён мне ко -зач- ку ку-піў.



А козачка бе-ла-я па да-рож-цы



бе -га- е ; аб" - е -ла - ся



бя-жыць

ле-бя-ды, кры-чыць, да ва-ды.



Мя - не до -ма не бы- ло



і ко-зач-ку аб-ду- ло.

А мой бацька добры быў:
Ён мне козачку купіў,
А козачка белая
Па дарожцы бегае;
Аб"елася лебяды,
Крычыць,бяжыць да вады.
Мяне дома не было
І козачку абдуло.

Ой,глядзіце,хлопцы ўсе,
Янку трасца як трасе.
Хай трасе,няхай трасе,
Бо ён сьвіньня ўсё пасе.
Вось трасецца мой каток,
А я з вамі,малайцы,
Пагуляю хоць часок.

Ой,спаліце пяруны,
Майго Янку,бо дурны.
Назалье толькі мне,
А каб сватацца-дык не.
Я скажу табе ня раз:
Прысылай сватоў да нас,
Татка добры-ён аддасьць,
У пасаг цялушку дасьць.

А той Янка,той благі
Усё сьмяецца -г-гі-гі.
Да таго-ж часамі насьміхаецца,
Ажно сэрца забаліць.
Ой,праліцяся дажджы,
А ты Яначка пачакай,
Уручу табе бяду-
За нікога не пайду.

# 73. ОЙ, ДА ТЫ, КАЛІНІЦА

Словы невядомага аўтара Гарм. В. Качанскага

Andante

I. Ой, да ты, ка- лі - - ні- ца,

двое

ты ма- - лі - ні -ца.

Ой, да ты ня стой , ня

стой на га - ры кру-той.

Ой, да ты, каліпіца,
Ты маліпіца.
Ой, да ты ня стой,
Ня стой на гары крутой.

Ой, да ты ня стой, ня стой,
На гары крутой,
Ой, ды не скідай ліста
У сіняе мора.

Ой, да па сіняму моры
Пераплаў плыве,
А на гэтым пераплаве
Малады жаўнер плыве.

# 74.БУЛЬБА,ПЕСЬНЯ-ТАНЕЦ

/З беларускіх народных скокаў/.

Словы невядомага аўтара Гарм.В.Качанскага



І. Гар-ні,гар-ні буль-бу пе-чы з тор-бач-ку



ды і за пле-чы!Буль-бу пя-куць,буль-бу ва-раць,



буль-бу я-дуць ды і хва-ляць. Буль,буль,буль ды



буль-бач-ка,на-ша пад-ма - цо-вач-ка!



Буль,буль, буль ды буль-бач-ка,смач-на-я хар-



чо-вач-ка.

Гарні,гарні бульбу з печы
У торбачку ды і за плечы!
Бульбу пякуць,бульбу варацъ,
Бульбу ядуць ды і хваляць.
Буль,буль,буль ды бульбачка,
Наша падмацовачка!
Буль,буль,буль да бульбачка,
Смачная харчовачка.

З бульбы клёцкі ды і каша,
Прападзі ты,доля наша!
Адзін лапаць,другі бот,-
А я-ж шляхціч,далі-бог!
Прыпеўка:бульба,бульба.

Эх,туры,ды эх,татуры,
Я шляхоцкай сам натуры.
У суботу ем бліны,
А ў нядзелю ўюны.

# 75.ЦІ НЯ БЫСТРАЯ РЭЧКА



Словы невядомага аўтара Гарм.М.Равенскага

Солё -Бас

I. – Ці ня быст-ра-я рэч-ка,ва-ду за-му-ці-

ла ? Ча–го пла-чаш дзяў-чы - нач -ка,

ці не ма -ту-ля бі-ла ? - Ой ,бі-ці ня

бі-ла,са - ма зас-му- ці-ла

– Ці ня быстрая рэчка,
Ваду замуціла?
Чаго плачаш,дзяўчыначка,
Ці не матуля біла?

- Ой, біці ня біла,
Сама засмуціла.
Ды ня даў мне Бог,
Не судзіў мне Бог, ..2 разы
Каго шчыра любіла.

Ты пойдзеш гарою, а я даліною.
Я сама знаю, людзі гавораць,
Што ня быць за табою.

- Няхай гавораць усякае ліха,
А мы з табой, дзяўчыначка,
Любімася ціха.

# 76.ПАЙШОЎ ЯСЬ НАШ НА ЛУЖОК



Словы невядомага аўтара, Гарм.М.Равенскага



І. Пай-шоў Ясь наш на лу-жок,пай-шоў Ясь наш



на лу-жок,на-ка-сіў а - та-вач-кі, ён ста-жок



на-ка-еіў а -та-вач-кі, ён ста-жок.

Пайшоў Ясь наш на лужок,
Пайшоў Ясь наш на лужок,
Накасіў атавачкі,
Ён стажок накасіў атавачкі,
Ён стажок.

Ська стаў адпачываць-2 разы
Сваю к сабе Настулячку стаў чакаць-2 разы
А Настулька не прышла -2 разы
Маці дома работачку ёй знайшла-2 разы
-Чакай мілы да пары-2 разы
Да цёмнай ночанькі да зары-2 разы.

# 77.ДУДА-САЎКА ДЫ ГРЫШКА

Словы невядомага аўтара Гарм.У.Тэраўскага

Пераклад у соль-маж

Жвава В.Качанскім




І. Саў-ка ды Грыш-ка ла-дзі-лі ду-ду,



ай ду-ду-ду, ду-ду,ду-ду ла-дзі-лі ду-



ду. Ду-ду,ду-ду ай ду -ду -ду



ла-дзі-лі ду- ду.

Саўка ды Грышка ладзілі ду-ду,
Ай ду-ду-ду,
Дуду,дуду ладзілі дуду.

Ладзілі славіць з дудой Каляду-2 разы.
Дуду,дуду,ду-ду-ду
Ай дуду,дуду
Дуду....... славіць Каляду.

Як разыйшліся музыкі гу-га!
Згінула гора,згінула туга.
Туга,туга,згінула туга.

Язэп старэнькі ёмкі ўзяўшы скрут,
Кіем на дзьверы паказаўшы тут.
Туту,туту,туту,туту...
Паказаўшы тут.

Вы сабе дайце сваё го-цаца,
Толькі ня страшце Ісуса Хлапца.
Гоца,ца-ца,цаца,цацы Ісуса Хлап-
ца.

## 78.ЛЯВОНІХА

Народная песьня-танец   Гарм.У.Тэраўскага

Жвава

І. А Ля-во- ні -ху Ля -вон па-лю -біў,

Ля -во-ні-се ча-ра-віч-кі ён ку-піў,

Ля -во-ні-ха - ду-ша лас- ка-ва- я -

ча -ра-віч-ка-мі па- ляс- кі-ва- ла.

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравечкі ён купіў,
Лявоніха-душа ласкавая-
Чаравічкамі палясківала.

А Лявоніха ня жонка была,
Нямытую мне кашульку дала.
Нямытую,некачаную,
У суседа пазычаную.

Як я молада ў матульні жыла,
Я,як вішанька ў садочку цьвіла;
Цьвіла,цьвіла дый пацьвітывала,
З малайцамі ды пагульвала.

Ой,згубіла мяне мамачка мая,
Што за цябе мяне замуж аддала.
Ой,чаму цябе пярун не забіў,
Як ты мяне маладзеньку любіў.

Дасталася я злому духу-мужыку:
Ссушыў мяне ён,як ліпачку ў духу.
А некаму наказаць,наказаць,
Злога духа прывязаць,прывязаць.
А я татку накажу,накажу,
- Злога духа прывяжу,прывяжу:
- Не хадзі ты,баламут,у наш двор,
Не насі ты худобы ў наш дом!

Наехала повен двор Татараў,
Ды забралі майго мужа ў палон.
Ды няшкода,што яго ўвязалі,
Толькі шкода,што нямоцна зьвязалі.

Ён,паганец,уцячэць,уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць,натаўчэць.
Трэба будзе ўцякаць,уцякаць,
З вераб"ямі пад страхою начаваць.

А дзе тыя кавалёчкі жывуць,
Што новыя тапарочкі куюць?
Куюць,куюць ды падварываюць,
Нашых дзевак ды падманываюць.

-Ой,каб цябе ды пярун той забіў,
Як я цябе,маладзеньку любіў.
Ой,Лявоніха,Лявоніха мая,
Няхай цябе любіць чорт,а ня я!

# 79. АНТОН МАЛАДЗЕНЬКІ



Словы невядомага аўтара Гарм. У. Тэраўскага

Сярэдне

I. Ан-тон ма-ла-дзень-кі піў мёд са-ла-дзень-кі, пры-ка-ціў-ся ён к бо-чач-цы, я-му мё-ду ўсё хо-чац-ца.

Антон маладзенькі
Піў мёд саладзенькі,
Прыкаціўся ён к бочцы,
Яму мёду ўсё хочацца.

Антон барадаты
Вёў казу каля хаты,
Антоніха паганяла,
На табаку зарабляла.

Антон казу вядзе,
Тыц-мыц,каза не ідзе,
Антоніха падганяе,
На табачку зарабляе.

Антон маладзенькі,
Насованька караценька,
Аж трасецца,калоціцца-
Яму мёду яшчэ хочацца.

Яшчэ рэпку салодку,
Ды дзяўчынку,красотку,
Кажа-рэпку саліць буду,
А дзяўчынку любіць буду.

## 80. ЦІ ЎСЕ ЛУГІ ПАКОШАНЫ



Словы невядомага аўтара Гарм. У. Тэраўскага










Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сенажаці?-
Пытаецца сын у мацяры,
Ды каторую ўзяці, узяці?

Ой, ці тую багатую,
Што хараша ходзіць?
Ой, ці тую бедненькую,
Што возьме, усё зробіць?

У нехарошай ды ў багатай-валы ды каровы,
А ў беднае сіраціначкі-толькі чорныя бровы.
У нехарошай ды ў багатай валы паздыхаюць,
А ў беднае сіраціначкі бровы не зьлиняюць.

## 31. ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, ЗІМАВАЎ



Словы невядомага аўтара      Гарм. У. Тэраўскага

Хутка

1. –Дзе ты, хме-лю, зі- ма-ваў, што не разьві-

ваў - ся ? Дзе-ж ты, сын-ку, на-ча-ваў,

што не ра-зу- ваў - ся, - ваў-ся ?

–Дзе ты, хмелю, зімаваў,
Што не разьвіваўся?
Дзе-ж ты, сынку, начаваў,
Што не разуваўся?

–Зімаваў я ў садку
Пад белай бярозай,
Начаваў я ў таку
Пад луговым возам.

Мацi сына не пытай,
Што не разуваўся:
Ён дзяўчынку к сабе чакаў,
Але ашукаўся.

# 82.ГЭЙ,У САДЗЕ

Словы невядомага аўтара    Гарм.У Тэраўскага

Хутка

I. Гэй,у са-дзе, ві -наг-ра-дзе ка-лі-на ста-

я -ла, пад-ка-лін-кай, пад ма-лін-кай

дзяў-чы-на шлюб бра-ла.

Гэй,у садзе,вінаградзе каліна стаяла,
Пад калінкай,пад малінкай дзяўчына шлюб брала.

Скуль не ўзяўся тут Іванка,
Дзявочы спадманка,
Ён выгаптаў чорну сьцежку
Дзеўцы пад аконца.

Гэй,за рэчкай,за ракой
Музыканты іграюць,
Там-жа маю міленькую
Да шлюбу зьбіраюць.

# 83. ТРАСУХА-ЗІМА

Словы Я. Коласа

Музыка М. Равенскага

Мерна

Народны танец
















Для
зньня:









Белым сьнегам замятае вецер чорныя палі,
Белу вопратку ўзьдзявае наша чорная зямля.
Мяккі сьнег лятае пухам і канца яму няма,
І пяе сярдзітым гукам,дзікім северам зіма.

Для заканчэньня:

Гэй вы коні вараныя,што заснулі!Весялей!
Гэй у скочку,залатыя,варушыцеся жывей!

Зачыняйце шчыльна хату,
Каб ня дзьмулі халады,
На вакно кладзіце мату,
Каб ня клаў мароз сьляды.

Ды кладзіце рукавіцы,
Дзе з марозам жартаваць,
Рады белай мы зіміцы,
Рады з ёю пагуляць.

## 84.БІТВА ПАД ВОРШАЙ/1514 г./

Народная песьня і старадаўняя мэлёдыя

Мерна,маршам

I. У ня-дзель-ку па- ра- нень-ку ўзый-шло

со-ней -ка хмар-нень-ка, узый-шло

со-ней -ка над бо-рам,над ся- лец-кім

та -бо -рам , - - бо-рам.

**У** **нядзельку** **параненьку**
Узыйшло сонейка хмарненька,
Узыйшло сонейка над борам, ..2 разы
Над Сялецкім таборам.

А ў таборы трубы граюць,
Да парады зазываюць.
Сталі раду адбываці,
Адкуль Воршу здабываці:
2 разы -здабываці.

А ці з поля,а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
А ў нядзельку параненьку
Сталі хлопцы пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы :2 разы

Гучаць разам з самапаляў,
З сяміпадых ад запаляў.
Б"юць паўсоткам з гарматаў...
Масква стала наракаці,
Месца Воршу пакідаці.

А як з Воршы ўцякалі,
Рэчку тую праклінали:
Бадай,рэчка,ты сто год высыхала,
Як нашая слава тутака прапала.2 разы

...

.. ..

Старая вайсковая песьня пра вайну Вялікага Княства Літоўскага з Масквою.Кастусь Астроскі /I460-I530 гг./ беларускімі /літоўскімі/ войскамі камандаваў.

# 85. А ВЯСНА ІДЗЕ НА БЕЛАРУСІ

Словы У.Дубоўкі

Музыка М.Кулiковiча

Хутка

I. А вяс-на і- дзе на Бе-ла- ру-сі, ап-ра-

на- е ў стра-і прас-то-ры, пра-мя-ніс-тасьць

жме -ня-ю ця-ру-шыць з ля- са-мі ве-ся-

ла га-во-рыць. А вяс-на спат-ка-е вас пры-

хіль-на, пуш-ча-бор цым-баль-на-пры-ві-та-е,

зак-ру- жыц-ца ў сі-нім не-ба-схі-ле, песь-ня

жау-рын-ка-ва за-ла-та- я, а вяс-на і-

дзе на Бе-ла -ру-сі, а вяс-на, вяс-на, вяс-

## А вясна ідзе на Беларусі 




А вясна ідзе на Беларусі,
Апранае ў страі прасторы,
Праменістасьць жменяю цярушыць
І з лясамі весела гаворыць.

А вясна спаткае вас прыхільна,
Пушча-бор цымбальна прывітае,
Закружыцца ў сінім небасхіле,
Песьня жаўрынкава залатая,
А вясна ідзе на Беларусі,
А вясна, вясна, вясна, вясна!

Праз дарогу шмат пяройдзе рэчак,
І Дняпро з Бярэзінай праскочыць.
З ляскай ціхай хвалі ў сьлед зашэпчуць,
З ляскай ціхай лягуць на пясочак.

... А вясна ідзе на Беларусі,
Апранае ў страі прасторы,
Праменістасьць жменяю цярушыць
І з лясамі ветліва гаворыць.

# 86.РАЗЬВІВАЙСЯ,СЫРЫ ДУБЕ



Словы невядомага аўтара Гарм.М.Куліковіча

Мерна

I. Разь-ві-вай-ся, сы-ры ду - бе,заў-тра

ма-роз бу- дзе!Пры-бі -рай-ся ты, ма-

лой -чык, заў-тра па-ход бу-

дзе !Пры-бі-рай-ся ты,ма - лой -чык,

заў-тра па -ход бу - дзе!

Разьвівайся, сьры дубе,
Заўтра мароз будзе!
Прыбірайся ты, малойчык,
Заўтра паход будзе! 2 разы.

Я і марозу не баюся,
Зараз разаўюся.
Я і паходу не баюся,
Зараз прыбяруся. 2 разы

Ой, бяжыць, бяжыць дарожка
Па чыстаму полю,
Едзе, едзе бел-малойчык
Шукаць шчасьце-долі. 2 разы

## 87. А Ў БАРЫ, БАРЫ



Словы Я.Купалы

Музыка У.Тэраўскага.

Паходная

1. А ў ба-ры, ба-ры тры да-ро-жань-кі. Гэй, гэй, гэй, тры да-ро-жань-кі!

А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!
Тудою ішлі
Тры жаўнерыкі.
Гэй, гэй, гэй, тры жаўнерыкі!
Адзін з траіх –
Наш, прыгожанькі.
Гэй, гэй, гэй, наш прыгожанькі!
Стаў, глядзіць жаўнер,
Сумняваецца.
Гэй, гэй, гэй, сумняваецца!
Па якой пайсьці,
Надумляецца.
Гэй, гэй, гэй, надумляецца!

а адной пайсьці –
е пашэнціцца.
Гэй,гэй,гэй,не пашэнціцца !
звядзе на ўсход,
куль нә вернецца.
Гэй,гэй,гэй,скуль нә вернецца !
На другой пайсьці –
Абняволіцца.
Гэй,гэй,гэй,абняволіцца !
Бо ў заходні бок
Шлях той коціцца.
Гэй,гэй,гэй,шлях той коціцца !
Выбірай жаўнер
Трэцьцю сьцежаньку.
Гэй,гэй,гэй,трэцьцю сьцежаньку !
Бо вяла яна
У родную межаньку.
Гэй,гэй,гэй,у родную межаньку !
І запеў жаўнер
Той прыгожанькі.
Гэй,гэй,гэй,той прыгожанькі !
А ў бары,бары
Тры дарожанькі.
Гэй,гэй,гэй,тры дарожанькі !

## 88. ЦІ СЬВЕТ, ЦІ СЬВІТАЕ

Словы невядомага аўтара Гарм. У. Тэраўскага

сьвет,
I. Ці ці сьві-та- е, ці на зо-ры зай-

мой ки,
ма- е ? Ці мі- лень-кі , го-луб сі-вень-

ко -ні - ка сяд-ла-е ?

Ці сьвет, ці сьвітае,
Ці на зоры займае ?
Ці мой міленькі,
Голуб, сівенькі, коніка сядлае?

Сядлай, мілы, каня,
Каня варанога!
Прыяжджай, мілы, не кідай, мілы,
Мяне маладзеньку.

Ці-ж я не такая,
Як і тая, другая?
Я і харошая, я-ж прыгожая,-
Доля нешчасная.

А ў полі азерца,
Там плывала вядзерца.
Ой прыйдзі-ж, мілы ды парадзімся,
Маё мілае сэрца!

## 89. ПАЎСТАНСКАЯ ПЕСЬНЯ
/З пралёгу п"есы "Кастусь Каліноўскі"/.

Словы і музыка невядомага аўтара 200

Старадаўняя мэлёдыя




I. Лё-та- е а-рол - лёг-ка- кры-



лы пад- хма-ра-мі і ту-ма-на - " - мі




наш

ідзе зма-гар Кас-тусь Ка-лі-ноў- - "скі




сьцеж-ка- - мі,ля -са - " - мі, - мі.

Запявала:

Лётае арол лёгкакрылы

Пад хмарамі і туманамі,

Хор: Ідзе наш змагар Кастусь Каліноўскі

Сьцежкамі,лясамі.

Запявала:

Лётае арол шызакрылы
Пад цёмнымі хмарамі,

Хор : Ідзе наш Кастусь,змагар наш народны,
З сябрамі -змагарамі.

Шануйцеся-ж варожыя каты,
Шалёныя ваўкалакі,

Хор: Ідзе Беларус,змагар Каліноўскі
Сьцежкамі -лясамі.

## 90. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК

Словы невядомага аўтара    Гарм. У. Тэраўскага

I. Зя- лё-ны ду - бо-чак, шы-ро-кі ліс-

то-чак, ку -ды ве-цер ве- е, ту-ды -

-" - галь-лё гнец-ца. Ку -ды ве-цер

ве - е, ту- ды галь-лё гнец-ца. Ку-

Зялёны дубочак, шырокі лісточак,
Куды вецер вее,
Туды гальлё гнецца.

Куды вецер вее, туды гольля гнуцца,
Па ветру да мілай
Усе весткі нясуцца.

Сяганьне субота,
А заўтра нядзеля
Чаму-ж у цябе хлопча
Кашуля нябела.

Як-жаж будзе бела,хоць заўтра нядзеля:
Мамка ў мяне стара,сястра ў мяне мала.
Пераплыву рэчку,сяду на брусочку,
Ці ня прыйдзе міла памыць мне сарочку.

## 91. АХ ВЫ, СТОЛІКІ МАЕ



Словы невядомага аўтара Гарм. В. Качанскага




Ах вы, столікі мае,
Вы цясовенькіе,
Ды чаму-ж вы стаіцё
Не засьцеляные.

Ах вы, госьцікі мае, маладзенькія,
Ды чаго-ж вы сядзіце,
Хлеба солі не ясьцё.

Калі хлеб наш не пушан,
Дык мы выпалаем,
А гаспадар не вясёл,
дык мы выпытаем.

Гэй, сябры на сустрэч далям
Дружна песьню запяём.
Песьня рвіся, ляці
З нашых юных грудзей!

# 92. МАЙЯ



Словы М.Кавыля | Музыка Д.Верасава.

Allegretto

p

I. Чор-на-во-ка-я мі-ла-я Май-я, з не расп-

ле-це-най ру-сай ка - сой, ад-шу-

ме-ла зя- лё- ным ты ма-ем, ве-рась-

нё-вай па-жоў- клай кра-сой. ту-ма-на-мі па-ві-ты-я

да-лі ты пай-шла і па-нес-ла са-з бой ту-ю

пе́сь-ню, што ка-лісь сьпя-ва-лі, ту-ю

песь-ню, што клі-ка-ла ў бой, ту-ю ў бой.

Чорнабровая мілая Майя,
З не расплеценай русай касой,
Адшумела зялёным ты маем,
Верасьнёвай пажоўклай красой.

У туманамі павітыя далі
Ты пайшла і панесла з сабой
Тую песьню,што колісь сьпявалі,
Тую песьню,што клікала ў бой,тую ў бой.

Што было,я таго не шкадую:
Быль мяне не трывожыць ні чуць,
Толькі песьню тваю маладую
Яшчэ раз я хацеў-бы пачуць.

3-ця - як першая.

# 93.ГНУЦЬ ВЯТРЫ ШЫПШЫНУ



Словы М.Кавыля | Старадаўняя мэлёдыя

Гарм.В.Качанскага

Мерна



кру- гнуць шып-
I. Ля ра-кі над чай вят-ры шы-ну.



сяст- шып- ста- чы-на.
Як ра шы- ны,там іць дзяў-

Ля ракі над кручай гнуць вятры шыпшыну.
Як сястра шыпшыны,там стаіць дзяўчына.
Гнуць вятры шыпшыну ды зламаць ня ў сілах,
А дзяўчына хлопцу сэрца падарыла.

Падарыла сэрца у час вясны,прыгожы,
А цяпер гаруе,бо забыць ня можа....
Бо забыць ня можа той шыпшыны ў цьвеце,
Бо каханы блудзіць дзесь па белым сьвеце.

# – МЯНЕ ЁСЬЦЬ ПРЫГОЖАЯ ПЕСЬНЯ

Словы М.Кав

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм.В.Качанскага



І. У мя- не ёсьць пры-го-жа-я песь-ня аб дзяў-



чы-не пры-го-жай ад - ной, Гэ-тай



песь-ні у гру-дзёх ма-іх цес-на. У гэ-тай



песь-ні ёсьць сло-ва ад - но;




Да-ра-жэй-ша- я за чыр-вон-цы,



лас-ка-вей-ша- я за сон і цяп-лей-ша-я за



сон-ца. У гэ-тай песь-ні срэб-ра звон, срэб-ра звон.

У мяне ёсьць прыгожая песьня
Аб дзяўчыне прыгожай адной.
Гэтай песьні ў грудзёх маіх цесна.
У гэтай песьні ёсьць слова адно ;

Прыпеўка : -
Даражэйшая за чырвонцы,
Ласкавейшая за сон
І цяплейшае за сонца ...
У гэтай песьні -срэбра звон -2 разы

Я не ўмею сьпяваць тую песьню,
За мяне хай сьпявае вясна.
Жиць мне стала на сьвеце ня цесна :
Ёсьць на сьвеце дзяўчына адна ;

Прыпеўка : -
Даражэйшая за чырвонцы,
ласкавейшая за сон,
І цяплейшая за сонца ...
Не дзяўчына - срэбра звон.

Я не ўсілах назваць яе імя,
За яе і ў агонь бы пабег.
Яе імя з усімі сьвятымі,
Яе імя ... кахаю цябе.

Даражэйшая за чырвонцы,
Ласкавейшая за сон,
І цяплейшая за сонца...
О,дзяўчына -шчасьця звон !

## 95. ДЗЯВОЧАЯ ПЕСЬНЯ



Словы І. Калесьніка Музыка В. Качанскага

Жвава



I. А я маю наламаю, ды і хату



прыбяру і ўсё што на сэрцы маю



табе толькі падару. Эх май, вя-



сёлы май, з кветкамі сапраўдны рай.



Дны рай.

А я маю наламаю,
Ды і хату прыбяру
І ўсё,што на сэрцы маю
Табе толькі падару.

Эх май,вясёлы май
З кветкамі сапраўдны рай.
Падару табе вясёлы
І агністы мой пагляд,
Каб у іншых вёсках-сёлах
Не заглядаў на дзяўчат.
Эх май!

Падару навек усьмешку
І пацалунак падару
І тваю дарожку-сьцежку
Аксамітам прыбяру. Эх май!
Каліж-ж гэта ня хопіць
І касы ня шкода мне,
Толькі хай найлепшы хлопец
Маёй долі ня міне.
Прыпеўка :Эх май !

# 96.ЭХ,ТЫ,ПЕСЬНЯ РОДНАЯ

Словы А.Змагара Музыка Ю.Рымка

I. Эх,ты, песь-ня род-на - я, ва-біш

сэр-ца чу -лась-цю,до -ля - ю на-род-на-

ю ,шчы-ра - ю ў -туль-нась-цю.

Эх,ты,песьня родная,
Вабіш сэрца чуласьцю,
Доляю народнаю,
Шчыраю ўтульнасьцю .

Ці зьвініш над вёскамі,
Ці плывеш ваколіцай,
Вонкі радасьць плёскае,
Раны ў сэрцы гояцца.

Выйду я на вуліцу,
Звоняць трэлі новыя,
І душа расчуліцца,
Песьняю ліпнёваю.

Песьня то ўсхліпвае,
Плача,заліваецца,
То зьвініць гульлівая
Да блакітнай раніцы.

Эх,ты,песьня родная,
Вабіш сэрца чуласьцю,
Доляю народнаю,
Шчыраю ўтульнасьцю.

## 97. НАД МАГІЛАЙ

Словы А. Змагара

Старадаўняя мэлёдыя

Гарм. В. Качанскага

Мерна-маршам

І. А ў ба-ры ў во-сень ве-цер га-ла-

сіс-ты рас-сы-паў-ся з дрэ-ваў за-ла-тым ма-

ніс-там.

А ў бары ў восень
Вецер галасісты
Рассыпаўся з дрэваў
Залатым маністам.

І шамцела лісьце
Сінявокім раньнем
Над магілай даўняй
На ўзьбярэжжы Лані.

Ды ня знала маці,
Дзе сын пахаваны...
Час пакрыў магілу
Лугавым дыванам.

# 98. ГЭЙ, МЫ БРАЦЬЦЯ

Словы Я.Купалы Музыка М.Кулiковiча

Рухава

F

I. Гэй, мы брацьця ўсе мы разам песьню запяём, дружна, сьмела на сьвет цэлы аб жыцьці сваiм. Гэй, брацьця дружна, сьмела на сьвет белы аб жыцьці сваiм.

Гэй, мы брацьця ўсе мы разам песьню запяём,
Дружна, сьмела на сьвет цэлы аб жыцьцi сваiм.
Гэй, брацьця, дружна, сьмела на сьвет белы
аб жыцьцi сваiм.

Даляціць мо" наша песьня
Да далёкіх сёл,
Там яе сусед пачуе
Павядзе за стол.

Хлеба,сольлю прывітае,
Чарку паднясе,
Закрасуе наша песьня,
Як жытцо ў расе.

# 99. ДНІ ПРАХОДЗЯЦЬ



Словы С.Пяюна /Новіка/. Музыка невядомага аўтара

Адзін солё, паволі

1. Дні над- хо- дзяць, дні пра- хо -дзяць, дні ля-туць,

быц-цам рэк бур-лі-вых хва- лі ў даль плы- вуць.

Коль-кі год, як на выг-нань-ні ў чу-жы-не,

трэ-ба му-чыц-ца ду-шо- ю і сэр-цам мне

Дні надходзяць, дні праходзяць, дні лятуць,
Быццам рэк бурлівых хвалі ў даль плывуць.
Колькі год, як на выгнаньні ў чужыне,
Трэба мучыцца душою і сэрцам мне.

Навакол нідзе не ўбачыш родных хат,
Не прыгорне ў адзіноцтве родны брат,
Не падзеліш нават думак з нікім тут,
Не прыгорне ў адзіноцтве родны кут.

Ночкай зорачкі на небе мігацяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць.
Што чуваць,скажыце зорачкі вы мне,
У той далёкай маёй роднай старане?

Ці матуля і татуля ўжо сьпяць,
Ці на іх таксама зорачкі глядзяць?
Занясіце ім,пакуль заблісьне сьвет,
Зоркі мілыя,бацькам маім прывет!

І скажыце,каб ня плакаў ні адзін,
Што ў выгнаньні мусіць мучыцца іх сын.
Бог магутны,Бог пашле нам сьветлы май-
Прыляту тады,як птушка ў родны край.

З новай сілай,з новым шчасьцем зажывем,
Беларускі гімн наш сьмела запяем,
Зааром мы і засеем і сажнем
Гэты бацькаўскі наш чорны свой загон.

Калі-ж толькі яны,родныя,ня сьпяць,
І на іх таксама зорачкі глядзяць,-
Занясіце ім,пакуль заблісьне сьвет,
Зоркі мілыя,бацькам маім прывет !

## 100. РАЗЫЙШЛІСЯ СЬЦЕЖКІ



Словы А.Змагара

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм. В.Качанскага




Разыйшліся сьцежкі
Вузкія, крывыя,
Разыйшліся полем
У дальнія краі;

І сядзяць на ўзьмежках,
На сівых руінах
Людзі без патолі
З сэрцам у крыві.

Горка плача Маці,.
Бедная галосіць;
Ёй не ўцішыць болю,
Ня суняць сьлязы;

Выйдзе жыта жаці,
Гляне на калосьсе
І зальецца болей
Горкімі сьлязамі.

Сумна на палетку,
Родная матуля!
Плачаш,не сьціхаеш
Ты ў начы і ў дзень:

Больш ня ўбачыш дзетак,
К сэрцу не прытуліш,
Бегаеш,ня знойдзеш
Месца анідзе.

Разьйшліся сьцежкі
Вузкія,крывыя,
Разьйшліся ў полі
У дальнія краі.

Тлеюць галавешкі
На сівых руінах,
Скаргу-дым з няволі
Гоняць у гаі.

# IOI.ДА ЗЛУКІ,ДА ЧЫНУ



Словы А.Машчонскага Мэлёдыя І.Цупрык-Жылінскай.

Паволі Гарм.В.Качанскага



I. Да злу-кі,да чы-ну!Бо кож-ны нас



зло-міць,як зго-ды між на-мі са-мы-мі ня-



ма.Вунь ба-чаць чу- жы- я і зьдзе- кі з нас



ро-бяць, ды це-шац-ца сьце-ні - пас- лан- цы Крам-



ля, ды...

Да злукі,да чыну!-Бо кожны нас зломіць,
Як згоды між намі самымі няма.
Вунь бачаць чужыя і зьдзекі з нас робяць,
Ды цешацца сьцені-пасланцы Крэмля.

Разьбіты між собку мы блудзім па сьвеце,
Супольнае-ж працы чакае народ.
Ці нам не аднакая справа ўсім сьвеціць,
Каб вызваліць край,што там церпіць
прыгнёт?

Да злукі,да чыну!Пакінем падзелы!
За нас хтось старацца ня будзе нідзе.
Дык разам супольна,адважна і сьмела,
У аднэй беларускай пайдзём грамадзе!

...

Ірэна Цупрык б.артыстка з Беларускага
Ансамблю "Жыве Беларусь"!

# 102.ВЯЧОРКІ

Словы М.Кавыля

Старадаўняя мэлёдыя
Гарм.Б.Качанскага



Скрып
I. Сі- ні ве-чар.Бе-лы сьнег. ва-



ны, таў-
рот.Дзя-во-чы сьмех.Ве-цер,спрыт- жар-



нік,ку-жаль вы-ха-піў і зьнік .

Сіні вечар.Белы сьнег.
Скрып варот.Дзявочы сьмех.
Вецер,спрытны,жартаўнік,
Кужаль выхапіў і зьнік.
Хтось згубіў верацяно.
Жарты ўспыхваюць ізноў.

Месяц чысты,малады
Абапёрся на сады,
Падглядае і з-за хат.
Дзед надзеў сівы халат,
Выйшаў сенцы адчыніць,
А наўкол агні,агні...
На камінку смалякі
Палыхаюць.Дзяцюкі
Пазіраюць з-за стала,
Ці каханая прыйшла...
Нібы пчолы ў вульлі,
Дзеўкі,хлопцы загулі.
Закружыўся калаўрот,
Не змаўкае карагод.
Песьня родзіцца сама:
-Ой,ты,зімушка-зіма!...

## 103. СЬВІНЬНІ Ў РЭПЕ

Словы невядомага аўтара  Гарм. У. Тэраўскага

Хутка

1. Сьвінь-ні ў рэ-пе, сьвінь-ні ў рэ-пе,

па-ра-ся-ты у грэч-цы, а му-зы-ка

без-я-зы-ка-ка-ля-пе-чы трэц-ца,

трэц-ца.

Сьвіньні ў рэпе, сьвіньні ў рэпе, парасяты ў грэчцы,
А музыка безязыка каля печы трэцца, трэцца.

Стары сваю жонку хваліць,
Што хораша варыць;
А малады сваю жонку зудзіць:
Што зварыць- спаскудзіць.

-Каб,здаецца,ды мне зранку
Гарэлiцы шклянку
I тытуну мне на люльку
I красну Ганульку.

Я-бы люлечку курыў-бы
I гарэлку піў-бы,
Красну дзеўку,Ганулечку,
Да сэрца туліў-бы.

# 104. А Ў ЛЕСЕ, ЛЕСЕ

Словы невядомага аўтара Гарм. У. Тэраўскага

Хутка

1. А ў ле-се, ле- се ды на ве-

ра-се вяс-на, крас-на на ў весь сьвет.

2. Ма-ла -ды там хлоп- чык ды ва-лы па-се.

Вяс- на, крас-на на ў-весь сьвет.

А ў лесе,лесе ды на верасе
Вясна,красна на ўвесь сьвет.

Малады хлапчык ды валы пасе.
Вясна,красна на ўвесь сьвет.

А яму дзяўчынка ды абед нясе-вясна,красна....

-Сядзьма разам,хлопчык,
Паабедайма-вясна,красна...

А я па абедзе,скажу табе дзіва,вясна,красна...
Скажу табе дзіва найдзіўнейшае-вясна,красна...

# IO5. БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Словы А.Русака Музыка У.Любана

I. Бы - вай-це зда-ро-вы, жы-

вi-це ба- га-та! У - жо-ж мы па-

е -дзем да сва-ёй ха-ты. Узя-

лё-най дуб-ро-ве мы на-ча-ваць бу- дзем і

ва-ша-е лас-кі на век не за-

12345 6

бу-дзем.

Бывайце здаровы, жывіце багата!
Ужо-ж мы паедзем да сваёй хаты.
У зялёнай дуброве мы начаваць будзем
І вашае ласкі на век не забудзем.

У вашай гасподзе шырокае поле,
Няхай-жа на шчасьце цьвіце ваша доля!
На рэчках на вашых бурлілі каб воды,
Каб плавалі з крыкам гусей карагоды.

Каб жыта ў полі трубою вілося,
Каб сала ў хаце кублямі вялося,
Што дзень у капусьце, каб плавала скварка,
А да скваркі часінай вялася-б і чарка.

Яшчэ вам жадаем прыбытку ў хаце:
Нямала, нямнога, што год па дзіцяці.
Ня будзе крыўды яшчэ і за тое,
Калі пашанцуе на год і па двое.

Дарогу-ж мы знаем да вас, ягамосьці,
І езьдзіць мы будзем да вас часта ў госьці.
Эх-то на адведы, эх-то нарадзіны,
Вазіць караваі па дзьве паўасьміны.

# 106. СКАЎЦКАЯ ПЕСЬНЯ

Словы Н.Арсеньневай Музыка М.Куліковіча

I. Сьмя- ец-ца сон-ца,цьві-туць па-

лі і рэ-ха кро-каў ю - нац- кіх

ло-вяць. З пра-цоў- ных гнёз- даў мы са-ко-

лы заў-жды, заў- жды на-па-га-то -

ве. I -то- ве !

Сьмяецца сонца,цьвітуць палі
І рэха крокаў юнацкіх ловяць.
З працоўных гнёздаў мы саколы
Заўжды,заўжды,напагатове!

І мы імкнемся расьці,расьці,
На-т перад лёсам ня гнуць галоваў
За ўсё,што варта ў жыцьці любіць,
Стаяць,стаяць-напагатове.

Быць тым братамі,хто нам браты,
Па сьвеце несьці спагады словы.
За край свой родны,свой залаты,
Усьцяж быць,усьцяж быць напагатове!

Калі-ж пакліча ён нас імкнуць,
Мкнуць бураломам дзікім,вяснавым,
Аддаць радзіме сваю вясну
Мы ўсе,мы ўсе-напагатове!

# 107. ЗАЎСЁДЫ

Словы Н.Арсеньневай  Музыка М.Равенскага

Moderato

I. Заў-сё-ды мы га- то- вы - я стаць

му-рам у на- го-дзе за род-ны

звы-чай з мо -ва: - ю, заў- сё- ды

так, заў- сё -ды так, заў -сё-ды так.

Заўсёды мы гатовыя стаць
Мурам у нагодзе за родны звычай з мовай,
Заўсёды так, заўсёды так, заўсёды так.

За славу непахісную,
За гонар Беларусі,
Каб сэрца нам ня ціснулі
Няслава ці прымус.

Мы сьмелыя, мы дужыя
Душой і гнуткім целам,
Каменьне ці калюжыны
Хай лёс прад намі сьцеле.

Нам сьвеціць усё яснае,
Усё добрае ў сьвеце,
Нясі-ж, нясі да шчасьця нас
Наш родны сіні вецер.

Заўсёды мы гатовыя
Стаць мурам у нагодзе
За вялічнае, новае,
Заўсёды так, заўсёды.

# 108. МЫ БАДЗЁРЫМІ РАДАМІ
/Песьня моладзі/.

Словы М.В.Кіпель Гарм.В.Качанскага



Мы бадзёрымі радамі выйдзем на прасторы,
Шлях нам сонейка асьвеціць, ясны месяц, зоры.
2 разы

Іам дзядоў нашых дарога
Іалотнішчам ляжа,
:к прайсьці па ёй сумленна,
'амо сэрца скажа. 2 разы

Перашкодаў не баімся:
Сілу ў сабе маем.
Што ў жыцьці свайго даб"емся,
Гэта цьвёрда знаем. 2 разы

то слабы, хто кволы духам,
еры хто ня мае,
яхай сыйдзе прэч з дарогі,
ам не замінае. 2 разы

## 109. СЯМ"ЁЙ ВЯСЁЛАЮ



Словы Н. Арсеньневай　　　Музыка М. Равенскага

Moderato assai



I. Сям"-ёй вя-сё-ла - ю, сям" - ё - ю



друж-на- ю , з ю-нац-кай ра- дась-



цю ў жыць- цё мы і - дзём, заў-



жды га - то -вы- я з ня- до-ляй



ду-жац-ца за до-лю леп-шу -



ю ці тут ці дзе , ці тут ці дзе.

Сям"ёй вясёлаю,сям"ёю дружнаю,
З юнацкай радасьцю ў жыцьцё мы ідзем,
Заўжды гатовыя з нядоляй дужацца
За долю лепшую ці тут ці дзе,ці тут ці дзе.
Па сьвеце з песьняю нас шмат,нас тысячы,
Шляхамі,стрункімі,мкне на прасьцяг.
Вясёла-ж,скаўты,ці горы высяцца,
Ці прорвы чорныя нам рэжуць шлях.
Ёсьць шмат прыгожага,ёсьць шмат чароўнага
У сініх далечах старой зямлі.
Наперад скаўты,хай сэрца поўніцца
Агнём някранутым няхай баліць!
Баліць за скрыўджаных і за прыгнечаных,
За тых,хто радасьцяў не каштаваў.
Прад намі-золата заходу ў вечары,
Прад намі-срэбная ў расе трава.
Сям"ёй вясёлаю,сям"ёю дружнаю,
З юнацкай радасьцю ў жыцьцё мы ідзем,
Заўжды гатовыя з нядоляй дужацца
За долю нашую ці тут ці дзе.

# IIO.ЮНАЦКІ МАРШ



Слова і музыка П.Манькова

I На нас сон-ца цёп-лай хва-ляй лье стру-

мень-ні пра-мень-няў, гэй сяб-ры на суст-рэч

да-лям друж-на песь-ні за-пя-ём . Песь-ня

рві-ся, ля-ці з на-шых ю-ных гру-дзей у бяз-

меж-ны-я да-лі прас-то-раў, з род-най

песь-няй сва-ёй у сям" і ма-ла-дой мы за-

бу-дзем на сум і на го-ра. Ма-ла - 2 р.

Зборнік песьняў Беларускага жаўнера



Хор у Саўт Рывэр, Н.Дж. пад кіраўніцтвам народнага артысты В.Селях-Качанскага

На нас сонца цёплай хваляй лье струменьні праменьняў,
Гэй,сябры на сустрэч далям дружна песьню запяем.
Песьня рвіся,ляці з нашых юных грудзей у бязмежныя далі прастораў,
З роднай песьняй сваёй у сям"і маладой мы забудзем на сум і на гора.
Маладыя нашыя гады нам пасланы Богам дар.
Наш дэвіз-прастор,свабода ў сэрцах радасьці пажар.
У наш век залаты праляціць нашы дні вучобай і спорнаю працай
І ўквецім мы іх між чужых і сваіх нашай песьняй бадзёрай,юнацкай .
Няхай холад,непагода закавалі родны край,мы на зло зіме халоднай зьберажом у сэрцах май.
Прыпеўка:Песьня рвіся,ляці з нашых юнацкіх грудзей

Па лясах,гарадах і па полю
Ад марозаў,завей,будзем толькі дужэй
Зарагтуем і сілу і волю.



Народны артыст Беларусі
Вячаслаў Селях-Качанскі

Народны артыст Беларусі Вячэслаў Селях-Кач

+++++

Вячэслаў Селях нарадзіўся 12/25/сьнежня 1885 г. ад бацькоў:Антона Селяха і Марыі Качан у мястэчку Лагойск,Барысаўскага павету,Менскае акругі. Бацька яго,Антон Селях меў 4-ох сыноў:Кастуся, Астапа,Аляксандра і Вячэслава,а таксама тры дачкі.Бацька быў рамесьнікам-сталяром.На 9 годзе жыцьця Вячэслаў Селях уступіў у мясцовую пачатковую школу,дзе настаўнікам у тую пару быў Н.Бейня,які заўважыў у Вячэслава добры моцны дыскант,улучыў яго ў школьны царкоўны хор.У хоры гэтым Вячэслаў Селях на працягу 4-х гадоў ды аж да мутацыі голасу,быў вядучым вучнем.

У часе лета,калі быў вольны ад школьных заняткаў Вячэслаў,ён дапамагаў сваёй матцы ў гаспадарцы,а дарослы-бацьку ў сталярцы.Жывучы пры царкве,ён заўсёды прымаў удзел у Божай Службе як сьпявак.У час зімы,а ўжо будучы 13-15 гадовым хлапцом,вучыў дзяцей граматы ў так зв. Царкоўнай Школе Грамады ў вёсцы Міхалова каля Лагойска.У школе гэтай,дзе заняткі адбываліся на працягу паўгода- ад Дзядоў да Вялікадня,дзе было 18 вучняў -хлапцоў і дзяўчатаў.З вучняў гэтых Вячэслаў Селях арганізуе 3-х галасавы дзіцячы хор,які сьпяваў у Лагойскай праваслаўнай царкве.

Пры працы з хорам, вялікай дапамогай была скрыпка Вячэслава, на якой ён навучыўся іграць, будучы 8-гадовым хлопчыкам. Вячэслаў і яго браты навучыліся іграць на скрыпцы ад добрага знаёмага, каторы часта прыходзіў у госьці да бацькі Антона Селяха, Гэнрыка Вальдоўскага, які служыў у характары садаўніка-агароднікa ў графа Тышкевіча. Такім шляхам усе 4 браты сталіся скрыпачамі. За гэты свой хор, які зьяўляўся вялікаю неспадзеўкаю для рэвізора школы-так зв. "наблюдателя" павятовага бацюшкі В. Гарбацэвіча, Вячэслаў атрымаў першую павятовую ўзнагароду ў суме 10 рублёў. У 1901 г. Вячэслаў Селях уступае ў Настаўніцкую Сэмінарыю ў Маладэчне, якую скончыў у 1905 г.. У сэмінарыі Вячэслаў браў удзел у аркестры, пад кіраўніцтвам адстаўнога дывізыйнага капэлмайстры, Чэха Карла Гонды. Вячэслаў іграў на флейцы, а калі быў створаны струнны квартэт, іграў першаю скрыпку. У сэмінарыйным хоры Вячэслаў сьпяваў басам, які ўжо ў той час варажыў яму вялікую будучыню. Апошнія два гады вучобы ў сэмінарыі Вячэслаў быў рэгентам сэмінарыйнага хору. Ня гледзячы на захапленьне музыкай і рэгенцтвам, Вячэслаў Селях не закідаў і іншыя дысцыпліны ў сваёй вучобе і праз усе 4 гады быў першым вучнем.

Будучы ўжо на апошнім курсе,Вячэслаў Селях падняў у сэмінарыі бунт,скіраваны супроць дрэннага харчаваньня і манастырскага рэжыму.Падчас агульнага цяжкага настрою ўсяе чацьвертае клясы,засьпяваў на першым тыдню Вялікага Посту,папулярную тады сярод рабочых марсэльезу :"Отречемся от драхлого мира..." З гэтай песьняй уся кляса выйшла на вуліцу,а вечарам гэтага-ж дня не пайшлі ў царкву і ўсе іншыя клясы.За такі выпадак у тыя часы арыштоўвалі і звальнялі з школы,але гэта не здарылася.На другі дзень пасьля бунту Вячэслаў Селях раптоўна захварэў на натуральную воспу.Прахварэў ён больш месяца і быў блізка ад сьмерці,але родная маці,якая была выкліканая з хаты,сваёй любоўю і няўтомным даглядам прычынілася ў дапамозе хвораму,і ён выздаравеў .Справе бунту кіраўніцтва сэмінарыі не дало ходу.Пакаралі тым,што за трэці квартал паступаваньня Вячэслава Селяха паставілі "3 "за паводзіны і пазбавілі стыпэндыі /16 руб.80 кап.за апошнія 2 месяцы /.Аднак 19 лютага /1861 г.-дзень вызваленьня сялянства ад прыгону /Вячэслаў Селях атрымаў узнагароду 5 рублёў.Гэтую ўзнагароду,згодна з заведзеным у сэмінарыі звычаем, давалі тром лепшым вучням апошняе клясы.

Па сканчэньню сэмінарыі Вячэслаў Селях працуе ў якасьці настаўніка Пачатковае Школы ў г.Мелегяны, Сьвянцянскага павету на Віленшчыне /1905-1906 гг./ у 1906-1907 гг.школьным годзе-настаўнікам 2-х Клясавае Чыгуначнае Школы ў Лібаве.У 1907-1910 гг. у 4-х кл.прыватнае школы з правамі дзяржаўнай прагімназыі і рэгентам хору Нова-Аляксееў- царквы пры чыгуначнай станцыі ў Лібаве.Вячэслаў ня хоча задаволіцца посьпехамі ў працы і заработкамі,а імкнецца далей разьвіваць музыкальныя здольнасьці.Пад канец месяца жніўеня 1910 г.ён едзе ў Пецярбург,дзе быў прыняты ў опэрную клясу Пецярбурскае кансэваторыі. Кіравау гэтай клясаи у той час вядомы і заслужаны артыст Тартакоў,былшы вучань вядомага італьянскага прафэсара-вакаліста Эвзрардзі.У гэтай Эвзрардаўскай школе Вячэслаў Селях атрымаў пастаноўку і апрацоўку свайго выдатнага ў той час голасу-драматычны барытон-бас.У 1915 г.Вячэслаў Селях закончыў кансэрваторыю з выдатным азначэньнем.Будучы студэнтам кансэрваторыі ў 1913-1914 гг.ён выступаў у малых ролях у новым тады тэатры "Музыкальная Драма",якім кіравау вядомы рэжысэр Лапіцкі. Вось тут для маладых чытялі вельмі карысныя лекцыі артысты з вялікім дасьведчаньнем,як:Пятроўскі, Тарскі,Альбедзінскі,Б.Раманаў,Валконскі ды іншыя.

Вячэслаў Селях выступаў там у ролях: Данкайр у опэры "Кармэн ",начны сторож "Майстар зынгер ",домаўласьнік "Богема" і другія.У сакавіку 1915 г. адбыўся вялікі конкурс-проба галасоў Марыінскім імпэратарскім тэатры,дзе у гэтым конкурсе браў удзел Вячэслаў Селях. З 300 сьпявакоў,што запісаліся на ўдзел у конкурсе камісыя абрала першым разам 62 асобы; другая адказная камісыя на чале з вядомым дырыгентам тэатру Напраўніка выбрала толькі двух:Вячэслаў Селях -барытон і Лебедзевалірычнае сапрана.У тым-жа годзе Вячэславу Селяху быў прызначаны дэбют,а галоўнай роляй была - партыя Ігара ў опэры А.Барадзіна "Князь Ігар".Дэбют прайшоў з посьпехам і дырэктар тэатру Тэлякоўскі запрасіў Вячэслава Селяха ў склад салістых опэры на першыя ролі. Спачатку сэзону Вячэслаў Селях сьпявае ў прэм"еры "Князь Ігар" з шырока вядомым ужо ў той час Ф.Шаляпінам-Галіцкім.У працягу 10 гадоў працы ў Марыінскім тэатры,ён як саліст выступаў больш чымсь 20-ці ролях,з якіх найболь адказнымі і лепшымі былі :"Дэмон" з опэры Дэмона, Рыгалета з опэры "Рыгалета" камп.Дж.Вердзі,Ігар з опэры "Князь Ігар" -А.Барадзіна,Шаклавіты / супольна з Шаляпінам у опэры "ХаванШчына "М.Мусарскага,Торэодор у опэры "Кармэн "Ж.Бізэ ў сцэнічнай пастаноўцы "Воражжа сила" Ф.Шаляпіна-Яромкі.

У гэтай сцэнічнай пастаноўцы Ф.Шаляпін як рэжысэр быў настаўнікам сцэнічнага майстэрства для Вячэслава Селяха.У ролі Барыса Гадунова з опэры "Барыс Гадуноў" Вячэслаў Селях праяўляў найбольшую пэўнасьць свае здольнасьці ў 1915 г..Гэтая роля была выкананая з такою артыстычнай сілай і майстэрствам, што пасьля яе выкананьня,на асабістую прапанову галоўнага рэжысэра,дырэктар тэатру Талякоўскі прызначыў Вячэславу Селяху першым дублёрам Ф.Шаляпіна, бо да гэтага часу Ф.Шаляпін дублёраў сваіх роляў яшчэ ня меў.На працягу двух сэзонаў 1916-1918 гг. Вячэслаў Селях выступае ў спэктаклях Александрыйскага Драматычнага Тэату ў Пецярбургу,дзе ён выступае ў ролі Анчарава ў п"есе "Другая жизьнь ". Спасярод артыстаў Марыінскага тэатру Вячэслаў Селях уважаўся лепшым прамоўцам,а ягоныя прамовы, якія ён сам укладаў і прамаўляў,вядомай артысткі Ярмолавай з Маскоўскага Малога Тэатру імя Астроўскага ў сувязі з ейным 50-гадовым юбілеем у 1920 г. і народнаму артысту Ярошаву ў Пецярбургу,дзе захоўваюцца як узоры ў музэях гэтых тэатраў.У летні пэрыяд Вячэслаў Селях выяжджаў на гасролі ў іншыя гарады .У ліпені 1917 г.у антрэпрызе Арбатава-Друзякіна,Вячэслаў Селях выступае ў бyўшым нямецкім опэрным тэатры ў Рызе ;

У сакавіку 1918 г. з асобнага тады дазволу Луначарскага,ён выступае ў Яраслаўлі ў антрэпрызе"Камуна.Ліпень-жнівень 1921 г.на просьбу "Іспалкому" Вячэслаў Селях ачольвае ўсю опэру ў Варонежы; у 1924 г. з групай актораў ад саюзу "Рабіс" выступае ў гарадах :Таганрозе,Растове н/Д,Стаўрапалі; два сэзоны 1923-1925 гг.адначасна працуе выкладчыкам у вакальнай Музычна-Драматычнага Інстытуту ў Ленінградзе,дырэктарам якога ў той час быў Бэрнштайн. І-га кастрычніка 1925 г.Вячэслаў Селях прыехаў у Менск на запрошаньне Беларускага Камісарыяту Асьветы,дзе заняў дзьве пасады:1/выкладчыка опэрнае і харавое клясы ў Музычным Тэхнікум у Менску,2/ кіраўніком музычнае сэкцыі пры Інстытуце Беларускай Культуры-ІНБЕЛКУЛЬТ.Вось у гэтым інстытуце Вячэслаў Селях арганізуе Беларускую Народную Харавую Капэлу ў ліку 70 асобаў,якая падрыхтавала опэру "Русалка" кампазытара Даргамыжскага ў перакладзе на беларускую мову артыстам Ждановічам.Да гэтае мэты былі ім запрошаныя дадатковыя сьпевакі :Несьцярэнка-сапрана,Мецялевіч-тэнор і Мартава-мэцца-сапрана.У травені 1927 году на сцэне Менскага Гарадзкога Тэатру была пастаўлена першая опэра ў беларускай мове,а сам Вячэслаў Селях выканаў ролю мельніка .

Дырыгентам быу запрошаны Макс Купэр,які апошні час працаваў хормайстрам Маскоўскага вялікага тэатру.У гэтым самым часе былі арганізаваныя паездкі для запісу беларускай мэлёдкі і вывучэньня народных танцаў.У такі спосаб быў здабыты народны танец-Крыжачок,які быў вывучаны балетмайстрам Шчарбініным на Магілёушчыне.Побач з гэтым рассылаліся кампазытарам :А.Туранкову,Нікольскаму і Прохарэву для гарманізацыі і апрацоўкі беларускіх мэлёдыяў,запісаныя :Грыневічам,Чуркінам і Тэраўскім.Такім чынам былі падрыхтаваныя для выкананьня хору песьні:"Ой з-пад лесу,лесу цёмнага ", "Ой ляцелі гусі", "Ой доля мая,доля" і шмат іншыя. У жніевені 1927 г.Вячэслаў Селях быў прызначаны дырэктарам Першага Беларускага Драматычнага Тэатру-БДТ-І,а рэжысэрам тэатру зьяўляуся Е.Міровіч.Артысты гэтага тэатру былі пераважна мастакі-аматары,якім,пры іх прыроднай здольнасьці,бракавала тэатральнай школы.Ведаючы з свайго собскага жыцьця значэньне прафэсыйнае школы,Вячэслаў Селях запрасіў лектараў-спэцыялістаў,каторыя чыталі акторам на розныя тэмы сцэнічнага мастацтва.Вячэслаў Селях жаніўся ў студзені 1929 г.з артысткаю драматычнае студыі,а дзявочае прозьвішча яе было : Вольга Волкава.

Яна працавала з маладых гадоў у Уладзівастоку, а пазьней у Пскове, дык гэта-ж артыстка прыехала з канцэртнаю групаю ў Менск, дзе запазналіся і пажаніліся. Вячэслаў Селях з шлюбнага жыцьця мае 2 дачкі: Алу і Ксеню, якіх ужо і выдаў замуж. У працягу трох гадоў працы пад кіраўніцтвам Вячэслава Селяха БДТ-I вырас у высокамастацкую адзінку і ў 1930 г. на Усесаюзнай Алімпіядзе у Маскве заняў першае месца побач з такімі тэатрамі, як Маскоўскі імя Вахтангава і Грузінскі імя Руставэлі. Бальшавіцкі пагром, скіраваны супроць беларускага мастацтва, перашкодзіў далейшаму разьвіцьцю здольнасьцяў і ведаў артысту-мастаку на беларускай ніве ў шырэйшым размаху. Зьняты з становішча дырэктара БДТ-I, як нац-дэм, бо не пайшоў у камуністычную партыю, Вячэслаў Селях працуе на менш адказных становішчах, як напр. загадчыкам драматычнага курсу, заступнікам дырэктара навучальнай часткі драматычнай студыі, выкладчыкам харавых сьпеваў і тэхнікі мовы. Аднак у Вячэслава Селяха праяўлялася творчая энэргія і тут з вялікім посьпехам радзіўся народны дух да беларускіх песьняў. За гэты час ён сабраў для артыкуляцыйных практыкаваньняў вялікую колькасьць беларускіх пагаворак цяжкімі гукамі для вымовы :

ў,ва,вь і іншыя.У 1933 г.пасьля канчатковага развалу БДТ-І камуністам Ляхроўскім,Вячаслаў Селях па хадайніцтву групы артыстаў БДТ-І ізноў вызначаецца дырэктарам БДТ-І,але ўжо ненадоўга.У гэтым часе пачынаюцца масавыя арышты нац-дэмаў і папярэджаны своечасова добрым чалавекам,Вячаслаў Селях пакідае Менск ды пераяжджае ў Ленінград.У Ленінградзе Вячаслаў Селях спачатку атрымоўвае становішча заступніка дырэктара Опэрнай Студыі імя Рымскага-Корсакава,а пазьней пераходзіць на пасаду рэжысэра Вандроўнага Опэрнага Тэатру-ВТО /Всероссийского Театрального Общества /і езьдзіць па гарадах СССР больш чымсь паўтара года.У часе паміж 1935-1937 гг.Вячаслаў Селях быў рэжысэрам украінскага тэатру пры "Доме Промкооперацыі " у Чаркасах на Днепры.Ён тут-жа кіраваў хорам студэнтаў пэдагагічнага інстытуту ў ліку 80 асобаў пры 12 бандурыстаў.Гэта быў выдатны хор,які на конкурсе студэнцкіх хораў у Ніжыне ў траўні 1937 г.атрымаў першую грамату,а на алімпіядзе драматычных гуртков у Кіеве ў сакавіку таго-ж г. за пастаноўку п'есы "Платон Крэчэт" атрымаў таксама першую грамату і 200 рублёў узнагароды.

Пад восень 1937 г.В.Селях пераехаў у горад Лугу, дзе працаваў у"Доме Культуры" як рэжысэр.Тут яго застала Другая сусьветная вайна.У часе вайны хор "Дому Культуры" не спыняў свае дзейнасьці і выступаў з канцэртамі пад кіраўніцтвам В.Селяха.У праграме канцэртаў былі ўлучаныя і беларускія песьні.Аб гэтых канцэртах пісаліся рэцэнзыі ў прыфрантавой газэце "За родину",якая выдавалася ў Рызе.Гэтая газэта трапіла ў Менск,дзе ў гэты час была арганізаваная Беларуская Народная Самапомач-БНС.Даведаўшыся з газэты аб выступленях В.Селяха, працаўнікі самапомачы ў асобах:др.І.Ермачэнка і інж.І.Касяк запрапанавалі яму пераехаць у Менск, забясьпечыўшы яго пропускам на пераезд.У такі спосаб зьдзейсьніліся шматгадовыя думкі В.Селяха аб працы на роднай ніве.7-га чэрвеня 1943 г.пасьля 10-га палітычнага выгнаньня з Бацькаўшчыны,ён ізноў апыніўся ў роднай сталіцы -Менску.Горад быў зруйнаваны вайною,усюды голад і галеча,а мастацкія сілы разьбегліся,але жыцьцё не спынілася, і побач грамадзкай ажыла і мастацкая дзейнасьць. У Менску В.Селях пачынае працаваць спачатку ў якасьці кіраўніка аддзелу Культуры і Мастацтва у Беларускай Народнай Самапомачы,а пазьней кіраўніком Гарадзкога Тэатру ў Менску.

У аддзеле гэтым ужо была арганізаваная драматычная група,з якою ён і паставіў выдатную п"су Тодара Лебяды "Загубленае жыцьцё".П"еса была дастасавана да сцэны аўтарам пры дапамозе рэжысэра В.Селяха і ў такой пастаноўцы выпала вельмі ўдалай,выклікаючы агульнае захапленьне гледача.Рэцэнзыя была зьмешчаная ў беларускай газэце "Менская газэта",прызнала пастаноўку бліскучай перамогай беларускага тэатру.У студзені 1944 г.В.Селях быў запрошаны ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады-БЦР,дзе ён узначальваў аддзел мастацтва. У хуткім часе ваенныя падзеі на ўсходнім фронце і адступленьне нямецкай арміі на Захад змусіла БЦР і разам з ёю В.Селяха падацца на Захад.Такім чынам ізноў пачаўся этап блуканьня па сьвеце, але гэта не спыніла ягонай мастацкай дзейнасьці. У Бэрліне пры тэатральна-канцэртным бюро "Вэнэта" В.Селях супольна з М.Равенскім і О.Меленцевым стварыў канцэртна-эстрадную групу пад назовам "Жыве Беларусь!". Група ў складзе 12 артыстаў з посьпехам аб"яжджала лягеры,у якіх жылі эмігранты з Усходу.У лютым 1945 г.у Бэрліне пачаўся небясьпечны час,і разам з іншымі В.Селях едзе далей на Захад.Пачаўся новы этап працы пры неспрыяльных абставінах,пад пагрозаю выдачы бальшавікам.

У ДП лягерох перш у Зонтгофэн,а пазьней Лютэнзээ /Баварыя,Нямеччына /.В.Селях стаўся Качанскім.Гэтае прозьвішча прымусіў яго той факт,што ён апынуўся ў сьпісе расейскіх саветчыкаў,якія езьдзілі па лягерах ДП у Нямеччыне,шукалі "сваіх",як яны называлі,людзей.На аснове ўмовы ў Ялце,4-12 лютага 1945 г.,усе савецкія грамадзяне падлягалі прымусовай рэпатрыяцыі ў Савецкую Расею.Савецкія рэпатрыяцыйныя місіі НКВД былі раскінутыя па ўсёй Нямеччыне і Аўстрыі.Расейскія бальшавікі пры дапамозе заходніх альянтаў,хапалі,кралі Беларусаў,Украінцаў,Расейцаў ды і іншых,садзілі іх у свае рэпатрыяцыйныя лягеры.Па сьледстве частка рэпатрыянтаў расстрэльвалі на месцы,а рэшту высылалі ў канцэнтрацыйныя лягеры ў Савецкую Расею на дасьмяротныя прымусовыя работы.У сьпісе было 75 прозьвішчаў ваенных злачынцаў,бо В.Селях біў папулярны да Другой сусьветнай вайны ў Савецкай Расеі.Апынуўся ён у гэтай групе пэўна-ж за пастаноўку ў Менску п"есы Т.Лебяды "Загубленае жыцьцё".Сама п"еса была адпаведная не зьместу пастаноўка, зробленая рэжысэрам В.Селяхам.Вельмі яна зьяўлялася вострую ды накіраваная супроць камуністычна-бальшавіцкай улады .

у дзеяньні артыстаў гэтай-жа п"есы былі таксама вельмі вострыя моманты,якія выклікалі воплескі-тут было плюнута і камуністычнай партыі і самому "бацьку народаў-Сталіну".Былі сумныя весткі,што "сьмерш"павесіў на сьцэне Менскага тэатру нейкіх двух удзельнікаў-артыстаў у гэтым спэктаклі. У лягеры каля Мюнхэна-Обэраммэргаў /Нямеччына/,дзе кожныя тры гады ставіцца містэрыі-Мукі Хрыста і Галгофа,зьявіліся саветчыкі і зажадалі ў каміндан-та лягеру картатэку,але каміндант Рэнэнкампф ня даў.Усё-ж саветчыкі нейк даведаліся,што тут і ў-бачыў прозьвішча Вячэслаў.Каміндант лягеру вельмі любіў В.Селяха як дырыгента хору і разумеў ашу-канчую палітыку Савецкай Расеі.Каміндант Рэнэн-кампф саветчыкам адказаў,што такіх людзей у мяне няма,а В.Селяха папярэдзіў ды запрапанаваў зьмя-ніць прозьвішча і імёны свае сям"і.Такім чынам В.Селях,а Качанскім стаўся,прымаючы прозьвішча свае маткі Качан,дадаючы да гэтага слова -скі,У-севалод,але ўсюды яго называюць Вячэслаў Селях-Качанскі.Пры гэтым нельга абмінуць гістарычны факт,што Францішак Качан,які зьяўляўся бацькам маткі В.Селяха-Качанскага,служыў пры маёнтку графа Тышкевіча ў Астрашыцкім Гарадку -25 км. ад Менску.

Ён браў актыўны ўдзел у паўстаньні Кастуся Каліноўскага 1863/64 гг.,праводзячы Каліноўцаў абыходнымі дарожкамі і сьцежкамі праз глухія лясы, каб абыйсьці заставы Мураўёва.За гэта быў пакараны ў сьпісе на павешаньне.Ён сябраваў з прваслаўным сьвятаром з Астрашыцкага Гарадка і гэты сьвятар Язэп Салаўевіч таксама вельмі любіў пчалярства.Айцец Язэп Салаўевіч даведаўся ад паліцыі,што лясьніку Францішку Качану грозіць сьмерць.Такім парадкам а.Салаўевіч адлажыў усе справы і паехаў да лясьніка Францішка Качана і яго папярэдзіў,дзе заначаваў,а на заўтрашні дзень забраў яго з сялібы Рабрышчава да сябе,прахоўваючы нейкі час у сваёй хаце.Потым дапамог яму прыняць праваслаўе,бо да гэтага часу ён зьяўляўся каталіком,і выдаў яму мэтрыку на імя Рыгор Качан,каторы ўратаваў жыцьцё ягонаму дзеду.Аднак ня гледзячы на пастрахі расейскіх бальшавікоў ужо пасьля Другой сусьветнай вайны,В.Качанскі арганізуе хоры,якія :лугоўвалі царкоўную службу,а таксама ладзілі канцэрты сьвецкай песьні.На пачатку 1948 г.ён пераяжджае ў беларускі нацыянальны лягер Міхэльсдорф,дзе ў працягу двух месяцаў быў наладжаны хор і пастаўлена ізноў п"еса "Загубленае жыцьцё". З хорам В.Качанскі выяжджае ў іншыя беларускія лягеры :

Пляйсгайм,Фрайман,Міттэльвальд,Людэнзэз і Рэгенсбург.Усюды канцэрты мелі велізарны посьпех. У травені 1949 г.Беларусы з лягеру Міхальсдорф пераехалі ў лягер Бакнанг.Сюды-ж прыехала частка Беларусаў з лягеру Гібэльштадт,сярод якіх былі сьпевакі,якія і папоўнілі існуючы тут хор.Аднойчы хор выехаў у летні лягер УМСА,дзе быў прысутны і прадстаўнік галоўнае кватэры з Франкфурту, дык ён быў вельмі захоплены беларускай песьняй . Гэты прадстаўнік галоунае кватэры прыслаў тэхніка-апэратара з неабходнымі прыладамі і Бакнанскі хор напяяў першы раз 15,а другі раз 13 песьняў . Стужкі з гэтымі песьнямі былі,быццам,зданыя ў архіў Аб"едналых Нацыяў у Вашынгтоне,але да гэтага часу па іх і сьлед загінуў.Хор лічыўся найлепшым хорам на Амэрыканскую зону Нямеччыны і выступаў у Бакнангу падчас сьвяткаваньня ўгодкаў Другога Ўсенароднага Беларускага Кангрэсу,на вечары "Дажынак",у канцэрце "На Купальле",а таксама выяжджаў у горад Плын,дзе была школа УМСА.У канцы лютага 1950 г.В.Селях-Качанскі на пераплаве "Генэрал Ган" адплыў у вялікую дарогу і 6-га красавіка 1950 г.знайшоўся на Зямлі Вашынгтона-ЗША .

Тут спачатку прышлося В.Качанскаму пайсьці на фабрыку ў якасьці звычайнага рабочага,але пасьля трохгадовае працы,маючы 65 гадоў,атрымаў сацыяльнае забясьпячэньне.У кастрычніку 1954 г.В.Качанскі быў запрошаны на становішча рэгента ў Праваслаўную царкву ў Элізабэт,якая належыць да Паўночна-Амэрыканскай Мітраполіі,дзе і працаваў нейкі час.19 чэрвеня 1955 г.быўладжаны спэктакль-канцэрт,падрыхтаваны В.Качанскім з удзелам яго самога ў ролі Куторгі ў пастаноўцы "Пінская шляхта", аб чым паведамлялася ў газэце №7 "Беларускага Слова".Ад ліпеня гэтага-ж году ён працуе з групай Беларуска-Амэрыканскіх Студэнтаў над пастаноўкаю п"есы Тодара Лебяды "Загубленае жыцьцё ". Аднак ня гледзячы на свае 70 г.,ён з юнацкай моладасьцю хоча зрабіць як мага болей для беларускага мастацтва.асабліва для вышкаленьня здольнай беларускай моладзі,перадаючы ёй веды і парады практычныя прыклады,якія ў яго шматгадовым артыстычна-творчым жыцьці шмат накапілася.В.Качанскі зьяўляўся на эміграцыі кіраўнікам Аддзелу Культуры і Мастацтва Выканаўчага Воргану БЦР.Беларускі хор у Саўт Рывэр,Н.Дж.,які мы бачым на здымцы,мае вялікае значэньне ў нацыянальным жыцьці Беларусаў на эміграцыі.

Удзельнікі гэтага хору зьяўляюцца носьбітамі беларускай песьні на чужыне.У 1956 г.Выдавецкі Аддзел пры Галоўнай Управе Злучанага Беларуска - Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту ў ЗША выпусьціў плыткі,наіграныя хорам пад кіраўніцтвам народнага артысты В.Качанскага :I-я і 2-я сэрыі.Акрамя ўсяго гэтага В.Качанскі зьяўляецца ганаровым сябрам Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у ЗША,а таксама пад канец 86-га году свайго жыцця сабраў,улажыў і напісаў "Зборнік песьняў Беларускага жаўнера".Вось за ўсё карыснае зробленае народным артыстам В.Селях-Качанскім для Бацькаўшчыны- на гэтым месцы пераказваем нашае шчырае жаўнерскае дзякуй ! На працягу стагодзьдзяў беларускі народ ня толькі прахоўваў прыём сваёй творчасьці,але старанна крышталізаваў народнае выражэньне,а каштоўная вартасьць беларускай песьні мела вялікі ўплыў на творчасьць іншых народаў Эўропы.Вось такім і зьяўляўся рэпрэзэнтантам беларускай песьні на эміграцыі,народны артыст Беларусі Вячэслаў Селях-Качанскі .

Жыве Беларусь !

Галоўны Штаб
Згуртаваньня Беларуска -
Амэрыканскіх Вэтэранаў
у ЗША.

Зьмест. Бачына

Жаўнерскія песьні :

II

Народныя песьні : Бачына

III

Бачына



Лірычныя песьні :

IV



Бытавыя песьні :

V

Бачына



Юнацкія песьні :

VI